незалежная газета

№ 18 (712) 11 мая 2011 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміць Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva.**

**Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для найпрасцейшай сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

### Зварот ветэранаў у абарону «Нашай Нівы» і «Народнай Волі»

Нас хочуць пазбавіць аб'ектыўнай інфармацыі аб тым, што адбываецца на Радзіме і за яе межамі. Гэта сапраўдны тэрор, які скіраваны на тое, каб замаўчаць праўду. Тую праўду, якой павінен жыць народ Беларусі.

**Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны Мельнікаў М.Ф, Баліцкі М.І., Каненка В.В.,Тадаровіч І.А. і іншыя; сябры Гродзенскага грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, Узброеных сілаў і працы Жук В.Я., Бельская Т.У., Шэўчук А.І., Іванова Н.Я., Астроўская І.А., Талерчык А.С. і інш.**

### Я з табой, любімая газета!

Як жа трэба не любіць сваю дзяржаву, свой народ (нягледзячы на ўсялякія напышлівыя словы), каб пайсці на ўдушэнне такіх сродкаў масавай інфармацыі, як «Народная Воля» і «Наша Ніва»!

Дык хто гэтыя людзі ў атачэнні ўлады, якія як чорт ладана баяцца іншай думкі, іншага погляду на тую ці іншую праблему? Я звяртаюся да гаранта Канстытуцыі — кіраўніка нашай дзяржавы: спыніце людзей, якія робяць мядзведжую паслугу ў першую чаргу Вам самому.

**Фелікс Шкірманкоў, інвалід Вялікай Айчыннай вайны II групы, Слаўгарад**

Водгукі чытачоў на спробу ўладаў зачыніць «Нашу Ніву» – **старонка 3**.

# Някляеў: Нас судзяць, бо мы дамагаліся свабодных выбараў



Сяргей Гудзілін

Адказ на абвінавачванне пракурора Уладзімір Някляеўператварыў у абвінавачванне сістэмы самаўпраўства і беззаконня. **Старонка 2.**

**Рэпартажы з палітычных працэсаў — старонкі 5—7..**



Чаму прафесіяналы прайгралі разносчыкам піцы? **Старонка 11**.

# Валюта па талонах?

У краіне з'явяцца «сацыяльныя даляры» па афіцыйным курсе. Але не для ўсіх.

Нацбанк Беларусі даручыў «Беларусбанку» прадаваць насельніцтву наяўную замежную валюту на сацыяльныя мэты. «Нацбанк накіраваў у «Беларусбанк» ліст, у адпаведнасці з якім гэтаму банку дазволена адразу не прадаваць набытую на памежных пераходах замежную валюту. Гэтыя валютныя сродкі будуць канцэнтравацца і накіроўвацца на сацыяльна значныя выдаткі нашых грамадзян за мяжой: на лячэнне, аплату навучання і пражыванне студэнтаў, выезд у сувязі з хваробай або смерцю сваякоў і іншыя мэты», — заявіў кіраўнік упраўлення інфармацыі Нацбанка Анатоль Драздоў.

29 абменнікаў «Беларусбанка» на памежных пераходах атрымалі дазвол не прадаваць атрыманую валюту яшчэ 9 красавіка. Там назапашваліся вялікія сумы даляраў і еўра, бо перагончыкі аплачваюць размытнёўку аўтамабіля проста на мяжы.

Паводле словаў Анатоля Драздова, «сацыяльная валюта» павінна прадавацца грамадзянам на падставе іх заяваў. Парадак продажу «Беларусбанк» мусіць вызначыць самастойна.

**Афіцыйныя падставы для атрымання «сацыяльнай валюты»**

- Лячэнне за мяжой
- Хвароба ці смерць сваякоў за мяжой
- Аплата навучання і пражывання студэнтаў за мяжой
- Іншыя мэты

Прадстаўнікі «Беларусбанка» пацвярджаюць існаванне такога распараджэння. У банку заяўляюць, што падчас прыняцця рашэння будуць кіравацца дакладнымі юрыдычнымі азначэннямі. «Пры насмарку замежных сваякоў, відома, заяўка задавальняцца не будзе. Падставай для куплі валюты ў «Беларусбанку» стане менавіта цяжкая хвароба сваякоў, пад гэтае азначэнне трапляе дакладны пералік дыягназаў», — сказаў прадстаўнік банка.

Пры гэтым тлумачэння фармулёўкі «продаж валюты на іншыя мэты» ў дакуменце не будзе. Гэта дае глебу для карупцыі. Імаверна, што асобы, набліжаныя да кіраўніцтва аддзяленняў банка, змогуць атрымаць даляры па афіцыйным курсе, а пасля прадаць па рынкавым.

**Яўген Васількоў**

**Каму верыць?**

31 сакавіка, віцэ-прэм'ер **Сяргей Румас**: «Даляры ў абменніках з'явяцца альбо 1 красавіка, альбо ў панядзелак (4 красавіка)».

16 красавіка, кіраўнік Беларусі **Аляксандр Лукашэнка**: «Сёння-заўтра-паслязаўтра (17—19 красавіка) мы выраўняем сітуацыю па валюце. Але вы на мяне не крыўдзіцеся. Курс – гэта справа некалькіх дзён, трэба, можа быць, тыдзень».

# Някляеў: Нас судзяць, бо мы дамагаліся свабодных выбараў

**Адказ на абвінавачванне пракурора Уладзімір Някляеў ператварыў у абвінавачванне сістэмы самаўпраўства і беззаконня. Абарона Някляева пабудаваная на тым, што заклікі да Плошчы былі насамрэч спробай прадухіліць вялікае злачынства — фальсіфікацыю выбараў. Прапануем Вашай увазе тэкст ягонага выступу ў судзе.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пачну з пункта абвінавачвання, які сапраўды мае да мяне, і да якога я сапраўды маю нейкія дачыненні. Пункт гэты сфармуляваны на 3-й старонцы абвінавачвання, а астатнія 27 старонак гэтага твора ў жанры юрыдычнай фантастыкі, на якіх амаль 100 разоў згадваецца імя Уладзіміра Някляева, выбачайце, не пра мяне. Гэта пра нейкага іншага Някляева, які, можа быць, і мог бы быць на Плошчы і, можа быць, здзейсніў бы тое, пра што тут напісана, калі б ён там быў.

Чалавек падлягае суду толькі за тое, што ён зрабіў, а не за тое, што ён мог бы ці нават збіраўся зрабіць. Я не зрабіў нічога з таго, у чым мяне вінавацяць.

Пракурор сцвярджае: гатовы быў, сабраўся!.. Дык Раскольнікаў у вядомым рамане Дастаеўскага сабраўся бабулю забіць. Доўга, дарэчы, пра гэта думаў. Планаваў. Але ж судзілі яго не за тое, што планаваў, а за тое, што забіў.

Цяпер давайце ўявім: Раскольнікаў злачынства спланаваў, сабраўся яго здзейсніць, ужо па вуліцы пайшоў... А бабуля хітрая аказалася, пра ўсё дазналася — і наняла хлопцаў са спецпадраздзялення «Алмаз». Тыя Раскольнікава на вуліцы перастрэлі — і паленам па галаве! Дык каго судзіць?.. Гэта ж зусім іншыя «Злачынства і пакаранне», зусім іншы раман нашага земляка Дастаеўскага. Вось бы Фёдар Міхайлавіч здзівіўся, дазнаўшыся, што Раскольнікаў амаль паўгода пад арыштам, а сёння яшчэ і ў судзе за тое, што ішоў па вуліцы, на якой яго яшчэ і ледзьве не забілі.

Калі б на гэтым судзе, як і на ўсіх сённяшніх палітычных працэсах, шукалі праўду пра падзеі 19 снежня, дык перш за ўсё дазналіся б, хто і чаму хацеў забіць кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Хто аддаваў загад. І я буду прасіць суд выклікаць у якасці сведкаў міністра ўнутраных спраў Анатоля Куляшова і кіраўніка краіны, а ў момант нападу на мяне гэткага самага, як і я, кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнку.

Бо Лукашэнка, ужо дзейны прэзідэнт, на сваёй прэс-канферэнцыі сказаў, што 19 снежня ўсе сілавыя структуры дзейнічалі пад ягоным кантролем, а міністр унутраных спраў 26 студзеня заявіў, што непасрэдна ён аддаваў загады.

Але вернемся да абвінавачвання. Цытую:«Некляев В.П. совместно с Дмитриевым А.В., Возняком С.В. и иными активистами кампании «Говори правду!» направился по проезжей части улицы (дарэчы, на гэтай вуліцы няма тратуараў, яна зусім вузенькая — і я буду яшчэ разбірацца, як мы патрапілі ў гэты капкан, чаму за некалькі гадзін да Плошчы быў раптам зменены маршрут руху калоны «Гавары праўду») от Коллекторной к улице Немига, где шествующим путь преградили сотрудники ГАИ при помощи служебного автомобиля (і як яна выглядала: помощь служебного автомобиля? А проста ўпоперак вуліцы машыну паставілі, як некалі гэта зрабілі іх сумнавядомыя калегі, якія загарадзілі трасу «жывым шчытом») и предъявили законное требование о досмотре перевозимого их микроавтобусом груза, двигавшегося в центре колонны. Однако Некляев В.П. как лицо, возглавлявшее шествие, от выполнения законных требований сотрудников милиции неправомерно отказался, после чего участниками незаконного шествия (чаму шэсце незаконнае? З якіх гэта часоў у нашай краіне незаконна ісці па вуліцы — няхай нават са сцягамі?) были совершены противоправные действия — предпринята попытка сдвинуть в сторону служебный автомобиль ГАИ, в ходе которых получил травму, в связи с чем делегировал свои полномочия начальнику своего избирательного штаба Дмитриеву А.В.

З гэтага тэксту не адразу і зразумееш (ён наўмысна так складзены), хто ж у выніку «предпринятой попытки сдвинуть в сторону служебный автомобиль» атрымаў траўму, ужо не кажучы пра тое, як ён умудрыўся яе займець.

У 2010 годзе прадстаўнікі Дзяржаўтаінспекцыі спынялі мяне на дарозе і патрабавалі нагляду аўтамабіля (бо ў ім, як яны сцвярджалі, можа быць ці зброя, ці наркотыкі, ці ўвогуле аўтамабіль украдзены) 21 раз! Я магу запрасіць у суд, каб засведчыць гэта, 21-га сведку... Гэта было ў Барысаве, у Жодзіне, у Мазыры — ва ўсёй Беларусі. Таварышы ў цывільным, якія раптам аказваліся побач з аўтаінспектарамі, везлі мяне ў пастарунак і там трымалі 3-4-5 і болей гадзін, пакуль не разыходзіліся людзі, на сустрэчу з якімі я ехаў. Машыну на гайкі разбіралі, а пасля яшчэ і здзекаваліся: маўляў, дзіўна, што пісталетаў з гранатамі не знайшлі. Тым не менш, яны, не знойдзеныя пісталеты з гранатамі, пасля Плошчы на фотаздымках з'явіліся... І следства мяне, дарэчы, 357 артыкулам праз тое палохала. Ледзьве не расстрэлам.

Як паказала Беларускае тэлебачанне ў баевіку маладога тэлерэжысёра Генадзя Давыдзькі «Жалезам па шкле», зброя была знойдзеная ў офісе кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Дык дзе яна падзелася? Чаму ні слова пра яе няма ў крымінальнай справе?.. Толькі таму, што для абвінавачвання па 342-м артыкуле зброя ўжо без патрэбы. А каб мяне абвінавацілі па тым артыкуле, якім палохалі, дык наўрад ці я прадстаў бы на гэтым судзе бяззбройным.

Усе крымінальныя справы па падзеях 19 снежня следствам зляпленыя так, як дзеці з пяску піражкі лепяць. Толькі гульня гэтая — не дзіцячая. За ёй — турма, краты, зламаныя чалавечыя лёсы.

Прычым лёсы пераважна маладых людзей. Следчыя самі разумелі гэта, таму і дамагаліся, каб падсудныя абавязкова прызналі сваю віну. Нібыта тым самым можна зняць цяжар з сумлення. Нельга. Калі, канешне, сумленне ёсць, калі яно не лішняе.

Але вернемся да эпізода з аўтамабілем ДАІ. Паўтараю: гэтаксама мяне спынялі і потым затрымлівалі 21 раз! Дык з якой прычыны я павінен быў думаць, што 22-гі раз на вуліцы Калектарнай у Мінску — не гэткі самы? Таму што ён 22-гі — і гэта перабор?.. «Ды ўсё тое самае, — падумаў я. — Зараз з'явяцца таварышы ў цывільным, і я апынуся ў пастарунку, дзе мяне будуць трымаць, пакуль не разыдзецца Плошча». І я не памыліўся. Толькі гэтым разам выйшла горш, чым я думаў: апынуўся я не ў пастарунку, а ў рэанімацыі бальніцы хуткай дапамогі.

«19 снежня 2010 года ў 19 гадзін 10 хвілін, што зафіксавана ў матэрыялах следства, я выйшаў з офіса кампаніі «Гавары праўду!», а ў 19 гадзін 17 хвілін, што таксама зафіксавана ў тых жа матэрыялах, атрымаў чэрапна-мазгавую траўму. І не ў выніку, як напісана ў абвінавачванні, «попытки сдвинуть в сторону служебный автомобиль», да якога я пальцам не дакранаўся, а ў выніку нападу групы невядомых людзей у чорнай форме, пасля чаго ачуняў ужо толькі ў рэанімацыі. Дык як і каму мог я дэлегаваць свае, як напісана ў абвінавачванні, паўнамоцтвы? Хіба толькі хітрай «бабулі», якая наняла хлопцаў у чорным...

**Працяг на старонцы 8.**

## Самае чытанае на nn.by за 4 — 10 мая



## Сярод лаўрэатаў прэміі «Вольнае слова» — два журналісты «НН»

6 мая ў рэзідэнцыі пасла Вялікабрытаніі пры падтрымцы амбасады гэтай краіны прайшла ўрачыстая цырымонія ўганаравання пераможцаў конкурсу «Вольнае слова-2010». Творчае спаборніцтва чацвёрты год запар ладзіла Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ).

«Такога цяжкога года для журналістыкі я, па шчырасці, не памятаю», — прызналася на цырымоніі старшыня БАЖ Жанна Літвіна.

Старшыня БАЖ нагадала пра пагрозу, што навісла над двума «брэндавымі» выданнямі беларускай незалежнай журналістыкі — «Нашай Нівай» і «Народнай Воляй», а таксама пра лёс зняволенага калегі Андрэя Пачобута, які чакае суда ў гродзенскай турме.

Старшыня журы Юрась Карманаў нагадаў, што на конкурс было пададзена больш за 60 тэкстаў ад 23 аўтараў. «Мы, журналісты, выконваем тры асноўныя функцыі: інфармуем, кантралюем уладу і дапамагаем простым людзям. Як сведчаць вынікі конкурсу, усім гэтым патрабаванням цалкам адпавядаюць тэксты-пераможцы», — падсумаваў Юрась Карманаў.

Прыемна, што, як і ў мінулым годзе, сярод пераможцаў аказаліся два аўтары «Нашай Нівы». **Сямён Печанко** заняў другое месца ў конкурсе на найлепшы інфармацыйны матэрыял сваім артыкулам «Няпросты кампраміс прафесара Астроўскага». А эсэ **Сяргея Макарэвіча** «Савецкая дачка прэзідэнта БНР» заняло другое месца ў конкурсе найлепшых літаратурна-мастацкіх тэкстаў.

## Сцісла

• **Еўрапарламент абмяркуе сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.** Дэбаты адбудуцца 12 мая ў рамках сесіі ў Страсбургу. Па выніках абмеркавання еўрадэпутаты прымуць рэзалюцыю. Раней Еўрапарламент асудзіў рэпрэсіі ў Беларусі ў дзень прэзідэнцкіх выбараў, заклікаў кіраўніцтва ЕС увесці санкцыі да беларускіх чыноўнікаў, якія маюць дачыненне да рэпрэсій.

• **Памерла пляменніца Янкі Купалы.** 7 мая ў Мінску памерла Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, якая ўсё жыццё адпрацавала ў музеі паэта. Пахавалі яе 10 мая.

• **Подых лета.** 12 мая па поўдні краіны чакаецца да + 26 °C цяпла. Агулам па краіне каля + 19 °C. Будзе хмарна, але пераважна без ападкаў. 13 мая — кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ноччу + 7—14°C, днём ад + 19°C па паўночным захадзе, да + 26°C па паўднёвым усходзе.

• **Ад Мінска да Вільні за тры гадзіны.** 29 мая Беларуская чыгунка ўводзіць новы маршрут. Раніцай цягнік з Мінска да Вільні будзе адпраўляцца ў 7:45 і прыбываць у Вільню ў 10:45, увечары цягнік будзе адпраўляцца ў 18:49 і прыбываць у Вільню ў 21:49. З прыпынкаў застаецца толькі стаянка ў Маладзечне і Гудагаі. З Вільні цягнікі будуць адпраўляцца ў 07:05 (прыбыццё ў Мінск у 10:05) і 19:05 (прыбыццё ў 22:05).

• **Авіяцыя НАТА бамбардавала рэзідэнцыю Кадафі і дзяржтэлебачанне.** Некаторыя СМІ выказваюць версіі, што ў часе бамбаванняў 1 мая загінуў і сам Муамар Кадафі. Ён ужо дзесяць дзён не з'яўляўся на людзях.

• **Microsoft купляе Skype за $7–8 млрд.** Карпарацыя Microsoft блізкая да заканчэння перамоваў аб набыцці Skype за суму $7–8 млрд. Набыць сэрвіс відэазванкоў Skype хацелі і Facebook, і Google. Перамовы аб продажы кампаніі, што кіруе папулярнай сістэмай відэасувязі ў інтэрнэце, актывізаваліся пасля рашэння акцыянераў Skype адкласці размяшчэнне акцый на біржы.

**СМ**

# «Нашу Ніву» і «Народную Волю» чыталі на вачах у Праляскоўскага




PHOTO.BYMEDIA.NET

**Урачыстае адкрыццё выставы «СМІ ў Беларусі» пачалося з акцыі ў падтрымку незалежных газет.**

4 мая незалежныя журналісты сабраліся каля выставачнага павільёна «БелЭкспа» перад адкрыццём выставы, каб нагадаць пра пагрозу закрыцця двух выданняў.

Спачатку ахова прапускала ў выставачны цэнтр толькі ўдзельнікаў выставы і ўладальнікаў запрашэнняў, чаго раней не бывала. Потым усіх ахвотных усё ж пусцілі ў сярэдзіну. Тое, што адбылося далей, арганізатарам выставы запомніцца надоўга. Незалежныя журналісты сталі ў першыя шэрагі ля сцэны ў момант урачыстага адкрыцця выставы і разгарнулі «Нашу Ніву» і «Народную Волю». Усё гэта адбывалася на вачах міністра Алега Праляскоўскага ды першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Радзькова.

Было заўважна, што чыноўнікі збянтэжаныя. Радзькоў, калі журналісты сталі з газетамі за яго спінай падчас тэлеінтэрв'ю, абураўся, што «гэта ўжо выходзіць за ўсякія рамкі». А Праляскоўскі, калі Марына Коктыш, намесніца рэдактара «Народнай Волі», спытала, ці не сорамна яму, пачырванеў.

**Сямён Печанко**

**«НН» — 11 мая, «НВ» — 13 мая**

Міністэрства інфармацыі падало ў Вышэйшы гаспадарчы суд пазоў аб спыненні выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля», матывуючы гэта наяўнасцю ў выданняў некалькіх афіцыйных папярэджанняў. Першае падрыхтоўчае пасяджэнне суда па справе «НН» пройдзе 11 мая, па справе «НВ» — 13 мая.

**Як гэта было ў 2006-м**

28 красавіка 2006 каля 300 чалавек зладзілі флэш-моб у падтрымку «Нашай Нівы». Газету, сярод іншых незалежных выданняў, пры канцы 2005 выкінулі з дзяржаўнай сістэмы распаўсюду, а пасля спрабавалі задушыць, пазбаўляючы юрадраса. Калона людзей з разгорнутымі асобнікамі «Нашай Нівы» моўчкі прайшла шэсцем ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Перамогі.

## Раю адумацца

Піша **Ніл Гілевіч**, народны паэт Беларусі.

Дзяржаўныя ўлады наважылі ўчыніць расправу над аўтарытэтнымі і любімымі ў народзе выданнямі. Скажу з усёй шчырасцю: як грамадзяніну Беларусі мне сорамна за намер дзяржавы ажыццявіць такую несправядлівую і такую безразважную задуму.

Сёння пайсці на такі крок — на задушэнне светачаў незалежнай думкі, светачаў праўды і сумлення — недаравальная безадказнасць, якая прывядзе да небяспечнага абвастрэння грамадска-палітычнага клімату ў краіне. Вось чаму тым панам-таварышам, у чыёй уладнай волі лёс друкаванага слова, я вельмі і вельмі раю адумацца і паглядзець на справу спакойнымі, не замутнёнымі злосцю вачыма. На радасць усім добрым людзям Беларусі.

## БАЖ: Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

**«Калі справа дойдзе да суда, прадухіліць закрыццё газет будзе ўжо бадай немагчыма», — лічыць юрыст, намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец.**

«Фармальна ў газет хапае папярэджанняў, каб суд, не ўнікаючы ў сутнасць справы, задаволіў зыскі Мініінфармацыі. Таму спыніць драматычнае развіццё падзеяў ёсць шанец толькі праз адкліканне зваротаў у суд», — лічыць юрыст.

Журналісцкая арганізацыя склала прыкладны ўзор звароту ў Мініінфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мініінфарма.

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі*
*Рэспублікі Беларусь*
*Праляскоўскаму Алегу*
*Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск,*
*пр. Пераможцаў, 11.*
*Прозвішча, імя, імя па бацьку,*
*дадзеныя пра месца жыхарства і*
*(альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

Акрамя таго, можна пакідаць свае заўвагі і прапановы ў Кнізе скаргаў і прапаноў, якая знаходзіцца ў кабінеце № 519 у намесніка кіраўніка справамі Міністэрства інфармацыі (г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 11), тэл. 306-32-90. Тэлефон «гарачай лініі»: 203-92-31.

**Беларуская асацыяцыя журналістаў**

**Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.**

## «Нашу Ніву» — не спыніць! «Народную Волю» — не стрымаць!

**На выставе СМІ прачыталі верш у абарону газет.**

Зрабіў гэта лаўрэат літаратурнага конкурсу «Брама Мар», зладжанага Інстытутам журналістыкі БДУ, студэнт Павел Шаламіцкі. Пасля падзеяў 19 снежня Шаламіцкі адбыў 10-суткавы арышт. На сцэну падчас узнагароджання ён выйшаў, загрыміраваны пад сумнага блазна.

У яго вершы былі радкі пра дзяржаўныя СМІ, якія «паліваюць хлуснёю», пра газ ад гранатаў «маркі КДБ, серыі «ўсё для вас», пра «спалоханых... за шчытамі» і пра белыя і чырвоныя ружы, «што насамрэч з шыпамі».

Рэфрэнам было:

«Нашу Ніву» — не спыніць!
«Народную Волю» —
не стрымаць!

Таксама на адкрыцці выставы ў падтрымку «НН» і «НВ» выступілі акторы ўніверсітэцкага тэатра «Галава-Нага». Яны са сцэны памахалі «Нашай Нівай» прадстаўнікам Міністэрства інфармацыі...

**АСт, СМ**

## З NN.BY

Не ў першы раз забараняюць. Зараз як раней — будзем самі разносіць. Кожнаму раёну — некалькі чалавек. І хай разносяць... Вось толькі не мінскім цяжка будзе дастаць папяровую «НН».

**Пятро**

Калі маеце намер працягваць выданне газеты ў інтэрнэце, зрабіце магчымасць для нас пасылаць ахвяраванні на выхад газеты.

**Korj**

У «НН» ёсць твар, беларускасць і аператыўнасць. Мне не падабаюцца ўсе гэтыя ціцькі-маціцькі, але і без гэтага — нікуды. «Ніва» робіць сваю сціплую працу, а любая сціплая праца з вынікам напружвае тых, хто робіць пампезную працу без выніку.

**Ян Вацлавовіч**

Кожнаму неабыякаваму чытачу «НН» і «Народнай Волі», калі голас сумлення пераважае над голасам страху ці абыякавасці, трэба ісці «ў госці» да пазоўніка і тлумачыць настойліва, што падобнае рашэнне — праява цэнзуры, забароненай паводле Канстытуцыі.

**Andrus**

Сапраўдная прычына [закрыцця газет] — авантурызм улады.

**Нязгодны**

Можна ў Расіі зарэгістраваць выданне і працаваць быццам «газета беларусаў Расіі». І — інтэрнэт-сайт. За ім будучыня.

**Алекс**

## Ці валодае статыстыкай Мініінфарм?

Лічыльнік Akavita паказвае, што сайт «Нашай Нівы» за час яго існавання наведала звыш 10 мільёнаў карыстальнікаў. «Народнай Волі» — болей за 3 млн. Для незалежных сайтаў дзесяцімільённай Беларусі гэта вялікі паказчык. Як можна нават думаць пра закрыццё такіх рэсурсаў?

«Советская Белоруссия» гэтую колькасць сціпла хавае. Яе штодзённая наведвальнасць параўнальная з наведвальнасцю «НВ», але ў 2—2,5 разу меншая за «НН». У інтэрнэце прымусова не падпішаш 500 тысяч падаткаплатнікаў на дзяржаўную прэсу.

Невядома, якой статыстыкай валодае Міністэрства інфармацыі, але паводле рэйтынгу каталога беларускіх сайтаў «Акавіта», сярод друкаваных СМІ вышэй за «НН» — толькі «Камсамольская праўда». Закрываючы «Нашу Ніву», Мініінфарм пазбаўляе слова чытачоў сайта.

**Юльян Місюкевіч, Ліда**

## Ветэраны беларускай журналістыкі: адвядзіце меч ад «Народнай Волі» і «Нашай Нівы»

Мы, ветэраны беларускай журналістыкі, грамадзяне розных палітычных поглядаў, але аднаго перакананння: менавіта на канстытуцыйных нормах павінна грунтавацца ўсё жыццё краіны. А ўдушэнне свабоды выказванняў, калі яны не супярэчаць закону і чалавечай маралі, ёсць грубае парушэнне гэтых норм. Таму мы рашуча патрабуем ад Міністэрства інфармацыі і яго натхняльнікаў спыніць гэтае «дзікае паляванне караля Стаха», зацікаўлена садзейнічаць стварэнню ў грамадстве атмасферы ўзаемаразумення і супрацоўніцтва — дзеля дабра і служэння роднай Беларусі.

Хочацца верыць, што меч, занесены над «Народнай Воляй» і «Нашай Нівай», будзе адведзены.

**Віктар Барушка,** удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, кавалер ордэнаў Чырвонай Зоркі і Айчыннай вайны II ступені, былы ўласны карэспандэнт газеты «Правда» па Беларусі;
**Іван Макаловіч,** былы старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па друку, былы рэдактар газеты «Звязда», былы старшыня Саюза журналістаў Беларускай ССР, кандыдат гістарычных навук;
**Святлана Кліменценка,** заслужаны работнік культуры Беларусі

# Нацбанк згодны на маленькія дэвальвацыі

А Расія патрабуе сур'ёзнага абвалу рубля.

Ад 12 мая Нацбанк пашырае калідор змяненняў курса беларускага рубля да кошыка валют з 8% да 12%. Гэта азначае, што кіраўніцтва краіны фактычна дазваляе правядзенне чарговай 4-працэнтнай дэвальвацыі. Чаму абраная менавіта такая лічба? Рэч у тым, што і кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка, і старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч, які цяпер, пасля аперацыі на сэрцы, знаходзіцца на рэабілітацыі, неаднаразова казалі пра недапушчальнасць «аднаразовай дэвальвацыі». Пад ёй, як заяўляў Пракаповіч, маецца на ўвазе змяненне курса валюты на 5% і больш. Такім чынам, 4-працэнтная дэвальвацыя як быццам бы і не будзе істотным парушэннем ранейшых абяцанняў.

Рашэнне дазволіць трошкі знізіць афіцыйны курс рубля, аднак не паўплывае на сітуацыю на валютным рынку, дзе даляр каштуе каля 5 тысяч рублёў. Ананімныя крыніцы лукашэнкаўскага інфармагенцтва «Інтэрфакс-Захад» паведамляюць, што адной з галоўных умоў выдачы Расіяй крэдытаў на суму ў $3 мільярды з'яўляецца поўная адмена валютнага калідора. Гэта азначае рынкавае вызначэнне курса валюты.

«Рашэнне аб пашырэнні калідору замест яго адмены значна ўскладняе пазіцыю беларускага боку на перамовах у Мінфіне РФ», — паведаміў суразмоўца, даўшы зразумець пры гэтым, што адмена калідора як такога знаходзіцца па-за кампетэнцыяй Нацбанка — рашэнні прымаюцца ў Адміністрацыі прэзідэнта.

**Яўген Васількоў**

**Уяўная дэвальвацыя**

Калі кожная з валют падаражэе на 4%, то іх курс складзе:

Даляр — 3158 рублёў

Еўра — 4607 рублёў

Расійскі рубель — 114 рублёў



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Каму верыць?**

15 сакавіка, прэс-рэліз Нацбанка: «Змены абменнага курса беларускага рубля, якія выходзяць за рамкі параметраў, усталяваных асноўнымі кірункамі грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 2011 год (калідор ваганняў рубля да кошыка валют — 8%), не плануюцца і ажыццяўляцца не будуць».

# Нават «Беларусбанк» прадае даляры за 5000 рублёў

А купляе — за 4800 рублёў.

Беларускія дзяржаўныя банкі не чакаюць у найбліжэйшы час умацавання рынкавага абменнага курса беларускага рубля да даляра ЗША. Ужо на працягу тыдня курс продажу валюты прадпрыемствам трымаецца на ўзроўні 5000 рублёў за даляр, што на 65% вышэй за афіцыйны курс.

Найбольш прывабны для экспарцёраў курс куплі безнаяўнага даляра прапануе «Белінвестбанк». Прычым умовы аперацыі залежаць ад сумы ўгоды з валютай — калі патэнцыйны кліент прапануе суму, якая перавышае $20 тысяч, то дамоўны курс можа скласці 5150 рублёў за даляр. Курс продажу ўсталяваўся на ўзроўні 5200 рублёў за даляр.

У «Беларусбанку» гатовыя купляць безнаяўныя даляры ў юрыдычных асобаў за 4800 рублёў, а прадаваць за 5000 рублёў. Гэта сярэднія лічбы, а сапраўдны курс вызначаецца ў выніку індывідуальных перамоваў з купцом.

**ЯВ**

## Як растуць золатавалютныя рэзервы краіны?

У апошні працоўны дзень красавіка ў нерэзідэнтаў было пазычана $82 мільёны.

Золатавалютныя рэзервы Беларусі, разлічаныя па стандартах МВФ, павялічыліся за красавік на $32,1 мільёна (0,9%) і на 1 мая 2011 года склалі $3 793,5 мільёна. Пра гэта сведчаць звесткі Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

Як быў дасягнуты гэты дзіўны рост, калі ўлічыць, што Беларусь пакутуе ад дэфіцыту валюты? Паводле красавіцкай статыстыкі Нацбанка, аб'ём доўгатэрміновых (больш за 60 дзён) крэдытаў, узятых на міжбанкаўскім рынку ў нерэзідэнтаў, склаў $578 мільёнаў. Прычым найбольшая сума была пазычаная ў апошні працоўны дзень красавіка — $82 мільёны. Гэтыя грошы і дапамаглі вывесці месячную справаздачу ў нязначны плюс.

**ЯВ**

## Сцісла

**Чэрвеньскі рынак высяляюць у Ждановічы.** Беларусь падпісала інвестыцыйны дагавор па рэканструкцыі Чэрвеньскага рынку з іранскай кампаніяй «Дыдас». На месцы рынку плануецца пабудаваць буйны гандлёвы, офісны і адпачынковы цэнтр з аўтастаянкамі і падземным паркінгам. Рэалізаваны праект агульным коштам 140 млн даляраў павінен быць да 2015 года. Працаваць на Чэрвеньскім рынку прадпрымальнікам засталося два месяцы — май і чэрвень. З 1 ліпеня да 1 жніўня яны павінны пераехаць на рынак у Ждановічах. На Чэрвеньскім рынку прадавалі ўсякае жалеззе і запчасткі да тэхнікі. Жыхары суседняга квартала тамсама набывалі прадукты.

**Курс еўра ў duty free аэрапорта «Мінск-2» — 10 100 рублёў.** На цэнніках указаны кошт тавару ў еўра і беларускіх рублях. Так, бутэлька аднаго з гатункаў віскі каштуе 14 еўра або 141 400 рублёў. Дэвальвацыя рубля дасягае тут 128%!

**ЯВ**

# Новы дзень — новыя цэны

Садавіна, рыба, кава… — што даражэе хутчэй?

Салодкі перац па 50 тысяч рублёў за кілаграм — гэта не фантастыка, а сумная праўда беларускай вясны-2011. Змена цэнаў у крамах некалькі разоў на працягу дня ўжо не здзіўляе, а, хутчэй, прымушае задумацца, як паспець купіць тое, што яшчэ моцна не падаражэла. Гэтай вясной у гульні «Знайдзі танны тавар» удзельнічаюць ледзь не ўсе беларусы. Прычым не ўсе — паспяхова.

І калі б даражэў толькі імпарт! Цэннікі змяняюцца нават на «зробленым у Беларусі». «Наша Ніва» прадстаўляе хіт-парад прадуктаў, якія падаражэлі найбольш. Старых цэн у гэтых катэгорыях беларусы не ўбачаць ніколі.

### Рыба

Яшчэ паўгода таму гаспадыні круцілі носам, калі ў краіне была ўведзеная забарона на імпарт в'етнамскіх пангасіуса і тэлапіі, вырашчаных у клааках дэльты Меконга. Айчынны таўсталобік быў і даражэйшым за іх, і не такім смачным. Цяпер на рыбу такія цэны, што сярэдняй гаспадыні не да смаку. Філе шчупака яшчэ тыдзень таму ў сталічным гіпермаркеце «Карона» каштавала 23 тысячы рублёў за кілаграм. Цяпер ужо 38 тысяч. Няхітрыя падлікі — рост цаны склаў 65%. Кілаграм скумбрыі ў сетцы крамаў «Віталюр» каштуе больш за 40 тысяч рублёў замест 25—28 тысяч месяц таму. Тут падаражанне таксама склала больш за 50%.

Рэзкае падаражанне рыбы прывяло да таго, што людзі сталі адмаўляцца ад прадукту. Тыя ж «Віталюры» стаяць паўпустыя. У Мінску папаўзлі чуткі пра закрыццё некалькіх фірмовых крамаў у найбліжэйшы час.

**Смачна есці!**

Мінск, Няміга. Свежыя маліны (1 кг) — 361 000 рублёў.

### Гарбата і кава

Упакоўка з 25 пакецікаў гарбаты «Грынфілд» каштуе 11—12 тысяч рублёў замест ранейшых 7 тысяч, а за такі ж «Ліптан» замест 4000 рублёў трэба аддаць 6500 рублёў. Рост цаны ў 60—70% лічыцца нормай.

100-грамовая ўпакоўка «Жакея» каштуе 7200 рублёў, а не 3200 рублёў, як месяц таму. 125% — вось паказчык інфляцыі. А вось па падліках начальніка ўпраўлення антыманапольнай і цэнавай палітыкі Мінгарвыканкама Іосіфа Рачыцкага, за красавік кава падаражэла «ўсяго» на 20—47%.

### Крупы і макарона

«Грэцкая» паніка, якая пачалася ўлетку 2010 года, цяпер перакінулася на іншыя крупы. «Я для рыбалкі раней проса купляў — рыбу карміць. Да Новага года каштавала 2500 рублёў. Цяпер у «Кароне» 8000 рублёў, у краме «Заходні» — 9000», — піша ў інтэрнэце здзіўлены рыбак. Хто смяяўся месяц таму з беларусаў, якія скуплялі макарону дзясяткамі кілаграмаў? Цяпер расійская макарона з цвёрдай пшаніцы каштуе 4500 рублёў. А тыя, хто паспеў, купіў яе яшчэ за 2500 рублёў.

А што з грэчкай? Сітуацыю вельмі добра характарызуе той факт, што беларусы істэрычна скупляюць у мінскім «Вестэры» ўцэненую на 50% грэчку па 11 тысяч рублёў за ўпакоўку.

### Садавіна і гародніна

Пра перац па 50 тысяч за кілаграм ужо было напісана на пачатку матэрыялу. Адзначым, што гэта не рэкорд. У шахцёрскім Салігорску цана складае каля 60 тысяч рублёў.

Бананы падаражэлі ўдвая — да 7—10 тысяч рублёў за кілаграм. Апельсіны каштуюць столькі ж, праўда, раней яны каштавалі каля 6000—6500 рублёў. Значыцца, рост цаны склаў каля 60%.

А ў агульнарэспубліканскім «Еўраопце» людзі купляюць маладую мараканскую бульбу па 5000 рублёў за кілаграм. Па цане — зусім як ківі на распродажы.

**ЯВ**

# Моцная абарона

Ужо сем дзён доўжыцца працэс Саннікава.



На лаве падсудных – справа налева: Фёдар Мірзаянаў, Ілля Васілевіч, Андрэй Саннікаў, Алег Гнедчык, Уладзімір Яроменак.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Разам з экс-кандыдатам на пасаду прэзідэнта судзяць чатырох юнакоў: Іллю Васілевіча, Алега Гнедчыка, Фёдара Мірзаянава і Уладзіміра Яроменку.

Працягласць працэсу — гэта, у першую чаргу, вынік упартай абароны. Адвакаты не абмежаваліся сведкамі, заяўленымі пракурорам, а выклікалі па справе яшчэ трыццаць чалавек. Кожнага дэталёва дапытваюць, што яны бачылі, хто што казаў, ці былі заклікі да штурму, ці бачылі зброю.

Хаця паказанні некаторых сведкаў былі ўспрынятыя не зусім адназначна. Напрыклад, яшчэ аднаго кандыдата ў прэзідэнты Яраслава Раманчука. Падчас ягонага выступу Саннікаў дэманстратыўна адвярнуўся да кандыдата ў прэзідэнты спінай. Адзінае, што ён сказаў: «Гэты чалавек шмат зрабіў, каб мая жонка таксама апынулася за кратамі».

Дарэчы, абаронай было заяўленае хадайніцтва аб допыце на судзе жонкі Саннікава Ірыны Халіп (яна пад хатнім арыштам) і бліжэйшага паплечніка Змітра Бандарэнкі (асуджаны на два гады). Суддзя Чацвярткова палічыла гэта немэтазгодным.

Затое мэтазгодным палічыла даставіць са шклоўскай калоніі Змітра Новіка. Яшчэ аднаго асуджанага па справе «беспарадкаў» 19 снежня. У залу суда ён увайшоў у чорнай турэмнай робе, з кайданкамі на руках, з двума міліцыянтамі па баках. Цікава, няўжо спадзяваліся, што Новік абгаворыць кандыдата ў прэзідэнты? Калі так, то пралічыліся.

«Маё ўнутранае перакананне, што выбары былі сфальсіфікаванымі. Я не бачыў, каб нехта распісваўся за Лукашэнку. Ніхто з маіх знаёмых за яго не галасаваў», — сказаў Новік.

Многія «пацярпелыя» блыталіся ў сваіх паказаннях. Напрыклад, Епіфанаў не выключаў такой магчымасці, што траўму яму мог нанесці нехта з калег-спецназаўцаў. Кашталанаў казаў, што ён з байцамі знаходзіўся ўнутры Палаца прафсаюзаў. Гэтыя словы цалкам супярэчылі выказванням ахоўніка Палаца, што міліцыі там не было.

У суд прыйшоў прадпрымальнік Ігар Палуян, які валодае крамай па продажы кветак на праспекце. Мужчына расказаў, што яшчэ да пачатку мітынгу да іх прыйшлі невядомыя людзі, якія рэкамендавалі зачыніць пункт продажу.

«Зачынілі на гадзіну раней — нічога страшнага ў гэтым я не бачу», — сказаў Палуян. Упушчаную выгаду ён лічыць не збіраецца.

Людзей у зале цяпер няшмат. Калі ў першыя дні стаяла чарга, каб трапіць на працэс, то цяпер нават бываюць вольныя месцы. Гэта пры тым, што тры апошнія шэрагі займаюць сябры БРСМ.

«Праз гэтых падонкаў мае сябры не могуць трапіць у залу», — сказаў Фёдар Мірзаянаў, за што атрымаў папярэджанне ад суддзі.

Не могуць больш трапіць у памяшканне і мама Федзі Людміла Мірзаянава і дзядзька Сяргей Аніська, якіх суддзя была выдаліла з залы. Усё таму, што падпалкоўнік контрразведкі ў запасе Аніська не вытрымаў: «Спыніце гэты спектакль. Гэта ганьба».

**Зміцер Панкавец**

# Сяргей Аніська: Мой доўг — быць з пляменнікам

Былы падпалкоўнік контрразведкі КДБ Сяргей Аніська ў свой час перайшоў у апазіцыю. Цяпер у судзе Партызанскага раёна судзяць ягонага пляменніка Фёдара Мірзаянава. Спадар Аніська адказаў на некалькі пытанняў «НН».



**«Наша Ніва»: Якія ўражанні пакідае суд?**

**Сяргей Аніська:** Абурэнне. А яшчэ горыч і крыўду за Фёдара. Калі першыя дні суддзя спрабавала ствары́ць бачнасць справядлівага разгляду справы, то цяпер ужо нават не клапоціцца пра гэта. Гэта падобна да пастаноўкі спектакля. «Пацярпелыя» спецназаўцы ў адным судзе кажуць адно, у іншым — зусім процілеглае. Мне толькі цікава, што яшчэ яны новага выдумаюць.

**«НН»: У справядлівы вырак верыце?**

**СА:** Нічога нармальнага ад гэтага суда я не чакаю. Канечне, недзе ў глыбіні душы хочацца верыць, што ў суддзі Чацвярткова спрацуе абарончы механізм. Хаця потым я сам смяюся з такіх развагаў.

**«НН»: Як Вам паводзіны на судзе пляменніка, Фёдар выбраў правільную тактыку?**

**СА:** Выбраў адзіную магчымую. Ён малайчына, не зламаўся. Яму, яшчэ калі затрымлівалі на суткі, прапаноўвалі падпісаць прызнанне, што вінаваты. Абяцалі адпусціць, але Федзя адмовіўся. Стойкі хлопец.

**«НН»: Лістуецеся з ім?**

**СА:** Так, вядома. Вось у шуфлядзе ляжыць больш за дваццаць ягоных лістоў. Апошняе, што дасылаў, — гэта віншаванне з Днём Перамогі. Той, якая ўжо была. І нашай, якая яшчэ будзе.

**«НН»: Чым Вы самі зараз займайцеся, неяк нічога не чуваць?**

**СА:** Контрразведчыкі не павінны быць у авангардзе. Я нікуды не знік, пагляджаў таксама не памяняў. Працую, жыву. Адышоў толькі ад актыўнай журналістыкі. Некалі Фядута напісаў, што журналістам можна быць толькі да сарака гадоў, а тады ці пішы кнігу, ці завязвай. Мне гэтая цытата спадабалася. Супрацоўнічаю з некаторымі нашымі выданнямі, замежнымі. Выказваюся як эксперт.

**«НН»: На Плошчы былі?**

**СА:** Вядома, дзе ж мне яшчэ было быць? Дарэчы, 19 снежня — гэта дзень вайсковай контрразведкі КДБ. Фёдар хацеў мяне павіншаваць з гэтым днём, але на Плошчы так і не сустрэліся. Затое сустрэў аднаго калегу. Хацелі зайсці ў Дом афіцэраў, каб адзначыць, але там было зачынена. На Дзяржынскага таксама. Так і дайшлі да плошчы Незалежнасці.

**«НН»: На суд над іншым афіцэрам Міколам Статкевічам не збіраецеся?**

**СА:** Я вельмі паважаю Міколу. Але мой доўг быць там, дзе судзяць майго пляменніка. Хай мне і забаранілі быць у зале. Буду пісаць яшчэ скаргі. Над Статкевічам працэс толькі пачынаецца, таму, думаю, паспею і да яго.

**Гутарыў ЗП**

# Сюрпрызы працэсу Някляева

5 мая пачаўся судовы працэс, падчас якога будуць вырашаныя лёсы двух экс-кандыдатаў у прэзідэнты — Уладзіміра Някляева і Віталя Рымашэўскага, а таксама кіраўнікоў выбарчага штаба Някляева — Андрэя Дзмітрыева, Сяргея Вазняка і Аляксандра Фядуты, а таксама Насты Палажанкі.

Справу разглядае суд Фрунзенскага раёна Мінска. Усе падсудныя абвінавачваюцца на падставе часткі 1 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх), што карацца максімальным тэрмінам тры гады. Акрамя гэтага, Сяргея Вазняка яшчэ вінавацяць у лжэсведчаннях.

Лёс абвінавачаных вырашае суддзя Жанна Жукоўская. Яна вядомая тым, што ўжо трапіла ў спіс невыязных у краіны Еўрасаюза пад 153-м нумарам.

Напярэдадні суда лідар кампаніі «Гавары праўду» Уладзімір Някляеў праз жонку Вольгу перадаў зварот у Мінскі гарадскі суд. Някляеў прасіў спыніць супраць яго і іншых удзельнікаў Плошчы крымінальную справу за адсутнасцю складу злачынства. Аднак зварот застаўся без увагі. Больш за тое, Някляеву было адмоўлена ў змене меры стрымання — ён адзіны з абвінавачаных, хто знаходзіцца пад хатнім арыштам і не прыходзіць у залу пасяджэнняў сам.

Тым не менш, гэты працэс над шасцю актыўнымі ўдзельнікамі палітычнага жыцця Беларусі моцна розніцца ад іншых. Хаця б тым, што ўсе абвінавачаныя сядзяць на лавах у зале суда, а не ў клетцы. І маюць магчымасць вольна размаўляць са сваімі роднымі, сябрамі, калегамі, адвакатамі і журналістамі.

Іншае, яшчэ важнейшае адрозненне, — гэта актыўны ўдзел у працэсе ўсіх абвінавачаных. Іх прамовы ў вольнай форме пачаліся яшчэ ў першы дзень працэсу, а скончыліся толькі на трэці. Пры гэтым Рымашэўскі, Вазняк, Дзмітрыеў і Фядута прызналі сваю віну часткова (яны пагаджаюцца, што заклікалі людзей узяць удзел у несанкцыянаванай уладамі мірнай акцыі пратэсту), а Палажанка і Някляеў увогуле адмовіліся гэта рабіць.

Экс-кандыдат патлумачыў гэта тым, што яго заклік выйсці на Плошчу быў выкліканы куды больш важкім злачынствам — фальсіфікацыяй выбараў. А Наста Палажанка адмовілася выказаць сваё стаўленне да абвінавачвання. «Гэта марнаванне нашага часу», — заявіла яна суддзі.

Наступная асаблівасць працэсу — адносная пасіўнасць пракурора Кажэўнікава. Асабліва гэта было заўважна падчас допыту Аляксандра Фядуты. На нейкі момант нават падалося, што гэта Фядута дапытвае пракурора, а не наадварот.

Абвінавачаныя трымаюцца пазітыўна. Шмат жартуюць і ахвотна размаўляюць з журналістамі недзяржаўных СМІ. Да дзяржаўных стаўленне іншае — Рымашэўскі нават выгнаў з залы здымачную групу БТ. Аднак напружанасць адчуваецца. Уладзімір Някляеў праз стан здароўя (хвароба спіны) не можа ўвесь час сядзець і вымушаны назіраць за працэсам стоячы, а Аляксандра Фядуту пры канцы другога дня з высокім ціскам забрала хуткая.

Яшчэ адной адметнасцю «працэсу Някляева» з'яўляецца яго інтэрактыўнасць. Андрэй Дзмітрыеў, былы кіраўнік выбарчага штаба Някляева, вядзе анлайн-трансляцыю суда ў свой твітар проста з лавы падсудных, а яго планшэт Айпад дазваляе абвінавачаным чытаць анлайн-рэпартажы з суда і сачыць за рэакцыяй грамадства на ход працэсу ў рэжыме рэальнага часу. Такога ў судовай практыцы яшчэ не было.

Трэці дзень працэсу прынёс амаль сенсацыю. Выкліканыя ў суд у якасці сведкаў дайшнікі Паўлюковіч і Ігнацьеў прызналі, што на калону Някляева на вуліцы Калектарнай вечарам 19 снежня 2010 году здзейснілі напад супрацоўнікі міліцыі. Гэта пры тым, што раней міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў публічна заяўляў, што не ведае, хто збіў Някляева і яго каманду. Калі так пойдзе і далей, то «працэс Някляева» прынясе нам яшчэ шмат сюрпрызаў.

Складаецца ўражанне, што працэс моцна зацягнецца. Улічваючы актыўнасць абвінавачаных, іх адвакатаў, колькасць тамоў у справе (больш за 20), а таксама магчымыя перапынкі, выкліканыя станам здароўя Някляева і Фядуты, чакаць хуткага прысуду не даводзіцца.

**Алесь Пілецкі**

# Анархістаў вінавацяць у падпале КДБ

**17 мая ў Бабруйску, а 18 мая ў Мінску адбудуцца два працэсы над юнакамі.**

18 мая ў судзе Заводскага раёна Мінска адбудзецца разгляд крымінальнай справы чатырох актывістаў анархісцкага руху: Максіма Веткіна, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча і Аляксандра Францкевіча.

### Ад Генштаба да «Беларусбанка»

Ім інкрымінуюць падпалы, а таксама напады на будынкі. У гэтай справе цэлы шэраг эпізодаў. Першым з іх стаіць напад на Генеральны штаб Узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь.

Гэта здарылася 20 верасня 2009 года. Тады група анархістаў прайшлася шэсцем па вуліцы Камуністычнай. Падчас яго і быў кінуты «кактэйль Молатава» ў Генштаб. Анархі ж ішлі з расцяжкай: «Народ галадае, вайскоўцы гуляюць».

7 снежня таго ж года здарыўся напад на папулярнае ў Мінску казіно «Шынгры-Ла», што побач са стадыёнам «Дынама». Яшчэ праз тры месяцы хтосьці закідвае запальныя сумесі ў пастарунак салігорскай міліцыі.

Наступны Першамай анархісты адзначаюць «кактэйлем» у офіс афіцыёзнай Федэрацыі прафсаюзаў. У гэты самы Дзень працы на сайце Полацкага гарвыканкама з'яўляецца віншаванне са святам ад імя анархісцкага руху. У справе фігуруе яшчэ напад на аддзяленне «Беларусбанка» ў Мінску.

Цікава, што ніякага грамадскага розгаласу гэтыя акцыі не мелі. Пра іх ніхто толкам не пісаў і не ведаў. Усё захоўвалася ў таямніцы.

### Кактэйлі для пасольства

Найбольш рэзанансным выпадкам у гэтым шэрагу стаіць напад на расійскае пасольства, арганізаваны 30 жніўня. Тады ўсе даведаліся, што два «кактэйлі Молатава» былі кінутыя ў бок пасольства. Адзін не даляцеў, а вось іншы трапіў у дыпламатычную машыну, якая выгарала знутры.

Гэты інцыдэнт здарыўся ў самы разгар беларуска-расійскага супрацьстаяння. Калі на расійскіх тэлеканалах дэманстраваліся «Хросныя бацькі», а беларускі бок адказваў сваімі ўколамі «саюзніку».

Гэта магло пачаць дыпламатычны скандал. У той самы час спецслужбы па падазрэнні ў датычнасці да тэракта пачалі затрымліваць прадстаўнікоў анархісцкага падполля. Пра ўдзел анархістаў у здарэнні заявіў сам Аляксандр Лукашэнка.

У першыя ж дні пасля нападу на пасольства ў ізалятары часовага ўтрымання апынуліся Ігар Багачак, Валерыя Хоціна, Сяргей Слюсар, Мікалай Дзядок, Аляксей Жынгяроўскі і Аляксандр Францкевіч.

У той час, калі яны знаходзіліся на Акрэсціна, у будынак турмы невядомыя кінулі бутэльку з запальнай сумессю. Гэты ролік з'явіўся ў інтэрнэце. Ужо нашмат пазней міністр унутраных справаў Анатоль Куляшоў агучыў іншыя эпізоды справы.

Большасць з першапачаткова затрыманых анархістаў потым апынулася на волі. Але некаторыя, як Дзядок і Францкевіч, так і не выйшлі з-за кратаў.

### «Веру ў сусветную рэвалюцыю»

За выбарчымі падзеямі «справа анархістаў» троху выпала з поля зроку. Хоць на мітынгу 19 снежня група анархістаў ішла з плакатам: «Свабоду палітвязням Мікалаю Дзядку, Ігару Аліневічу, Аляксандру Францкевічу».

Ігар Аліневіч быў затрыманы пры канцы лістапада ў Маскве. Ягоныя знаёмыя кажуць, што экстрадыцыя затрыманага адбывалася без лішніх фармальнасцяў.

Дзяніс Быстрык, які праходзіў па справе «падпальшчыкаў», кажа, што яго выпусцілі з турмы толькі для таго, каб ён змог выйсці на Аліневіча. Супрацоўнікі спецслужбаў прапаноўвалі Быстрыку звязацца з сяброўкай Аліневіча, а потым прызначыць яму самому спатканне.

Калі Аліневіч усё ж апынуўся за кратамі, то Дзянісу прапаноўвалі даць інтэрв'ю для БТ з асуджэннем анархістаў. У будынку Белтэлерадыёкампаніі яго сустрэў Юрый Пракопаў, які паказаў відэаінтэрв'ю Аліневіча. Быстрык адмовіўся, пасля чаго адразу выехаў за мяжу.

Дарэчы, хлопец мяркуе, што ягонага паплечніка Аліневіча злавілі праз іншага затрыманага па справе хлопца А.Л. На анархісцкіх форумах яго не называюць інакш, як «мудак».

У тэлефільме БТ «Анархія прамога дзеяння» Ігара Аліневіча паспрабавалі паказаць як аднаго з ідэйных натхняльнікаў гэтых пагромаў. Сам Аліневіч не хавае, што напад на Генштаб здзейсніў ён, але ў атацы на расійскае пасольства свой удзел адмаўляе.

Аліневіч у камеру БТ кажа, што верыць «у сусветную рэвалюцыю», хоць і робіць гэта з горкай усмешкай.

З турмы прыходзіць інфармацыя, што іншыя затрыманыя таксама прызнаюцца ў некаторых эпізодах справы. Напрыклад, Францкевіч — у нападзе на салігорскі пастарунак, а Веткін — на расійскае пасольства. Тым не менш, сябры перакана්ныя, што прызнанні былі выбітыя пад прымусам.

### Напад на КДБ

Цікава, што 17 красавіка ў Бабруйску працягнецца разгляд крымінальнай справы яшчэ трох анархістаў: Арцёма Пракапенкі, Яўгена Васьковіча і Паўла Сырамлотава.



Ігар Аліневіч дае тэлеінтэрв'ю ў будынку СІЗА КДБ.

Іх абвінавачваюць у нападзе ў ноч на 17 кастрычніка на будынак бабруйскага КДБ.

Узятыя пад варту людзі досыць розныя. Васьковіч уваходзіў у апазіцыйную «Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю», пісаў у «Бабруйскі кур'ер». Пракапенка — найстарэйшы сярод затрыманых, пры гэтым яму ўсяго 21 год. Ён быў студэнтам. Сырамлотаў працаваў звычайным сталяром.

Ва ўжо згаданым фільме «Анархія прамога дзеяння» актыўны ўдзел бяруць усе трое затрыманых, якія актыўна супрацоўнічаюць з міліцыяй і тэлевізійшчыкамі. Васьковіч паказаў месца, дзе яны рыхтавалі «кактэйлі Молатава», — адзін з бастыёнаў бабруйскай крэпасці. Потым нібыта тое самае месца ўказалі і іншыя ўдзельнікі.

Потым яны расказваюць яшчэ пра дзве няўдалыя спробы нападаў на аддзяленні КДБ у Маладзечне і Баранавічах. Лідарам гэтай групы на тэлеканале называлі Пракапенку, але «кактэйлі» кідалі Васьковіч і Сырамлотаў.

Цяпер юнакоў судзяць па артыкуле 339 КК частка 2 «Асабліва злоснае хуліганства». Санкцыі паводле гэтага артыкула прадугледжваюць ад 7 да 12 гадоў.

Прытым «напады» былі збольшага сімвалічнымі актамі, дэманстрацыямі пратэсту, якія вялікай шкоды не нанеслі.

### Сачэнне за анархістамі

Анархісцкі рух Беларусі з'яўляецца вельмі закрытым. Пра яго даходзіць нешматлікая інфармацыя. Складана нават уявіць колькасны склад.

Выглядае на тое, што цяпер за анархістамі ўсталёўваецца кантроль, як над апазіцыянерамі. У гэтае асяроддзе дасылаюцца сексоты спецслужб. Дзяржаўныя СМІ называюць анархістаў больш радыкальнымі за вулічных маніфестантаў апазіцыі.

Звычайна ў анархісцкія арганізацыі прыходзяць малады хлопцы, ідэалісты, расчараваныя фальшам сучаснага грамадства. Вядома, што многія з анархаў падтрымліваюць футбольны клуб «Партызан» у процівагу мінскаму «Дынама».

**Зміцер Панкавец**



Яўген Васьковіч абвінавачаны ў нападзе на бабруйскі КДБ.

**Піша вам Яўген Васьковіч**

Вы, напэўна, ужо ведаеце, дзе і за што я знаходжуся [Васьковіча разам з ягонымі прыяцелямі-анархістамі вінавацяць у падпале Бабруйскага КДБ]. Вось атрымліваю па падпісцы «Нашу Ніву». Гэта важная рэч. Бо заўжды знаходзішся ў курсе праўдзівых падзей у краіне.

У мяне ўсё добра. Па ліку гэта ўжо другая турма (затрымлівалі мяне ў Магілёве, і там першыя тыдні тры быў на СТ-4) і чацвёртая камера (дзве на Магілёве, дзве тут). Трымаюся. Усюды да мяне ставяцца нармалёва. Вось нядаўна перадалі справу ў суд (14 красавіка). Судзіць мяне будзе сп. Павал Карцінін. Судзіць мяне будуць па трох артыкулах: 14, 41, 339 ч.2, зняволенне ад 7 да 12 гадоў. Нічога. Я ўжо даўно падрыхтаваўся атрымаць як мінімум год 10.

Хачу адразу перадаць прывітанне ўсім палітвязням, а таксама тым, з кім я побач змагаўся за нацыянальныя каштоўнасці: Таісіі Кабанчук, Вадзіму Кабанчуку, Віталю Рымашэўскаму, Паўлу Севярынцу, усёй Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, Змітру Сакуну, Змітру Дашкевічу і канечне ж, Настассі Палажанцы. Жыве Беларусь!

На гэтым усё. Бывайце здаровыя!

**Яўген Сяргеевіч Васьковіч,**
**Бабруйск, СІЗА-5, камера 32,**
**зав.Пераезны, 10**

# Лукашэнка паслаў Зайцава да Аліева

3 мая прэзідэнт Азербайджана прыняў старшыню Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Вадзіма Зайцава. Ён перадаў Аліеву вітанне ад Лукашэнкі.

«На сустрэчы было падкрэслена, што двухбаковыя адносіны паміж Азербайджанам і Беларуссю паспяхова развіваюцца ў розных галінах, адзначана значэнне супрацоўніцтва паміж адпаведнымі структурамі дзвюх краін, канстатавалася неабходнасць пашырэння сувязяў у сферы бяспекі», — адзначаецца ў паведамленні.



Што засталося «за кадрам»? Адно з найвастрэйшых пытанняў ва ўзаемадачыненнях Мінска і Баку сёння — пастаўкі нафты. 1 мая Мазырскі НПЗ стаў на двухмесячны рамонт, ад чаго пастаўкі азербайджанскай нафты па трубаправодзе «Адэса—Броды» спыніліся. Гэта можа адлюстроўваць праблемы Беларусі з аплатай за нафту.

Але, калі на парадку дня місіі былі нафтавыя пытанні, чаму паехаў кіраўнік спецслужбы? Мо Лукашэнка, пасылаючы Зайцава, разлічваў на сантымент з боку Ільхама Аліева? Бо бацька Ільхама і папярэдні прэзідэнт Азербайджана, Гейдар Аліеў, у свой час быў кіраўніком КДБ Азербай-джанскай ССР.

Невядома, ці спрацавала. Прэс-служба кіраўніка Азербайджана паведамляе толькі, што ён перадаў кіраўніку Беларусі вітанні ў адказ.

**СМ**

# Пофала: Выбух у метро выкарыстоўваецца, каб узмацніць рэпрэсіі

5 мая Вільню наведаў кіраўнік Ведамства федэральнага канцлера Германіі, міністр па асаблівых даручэннях Рональд Пофала (гэта пасада аналагічная беларускаму кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта). Спачатку ён меў выступ перад студэнтамі ЕГУ, пасля даў прэс-канферэнцыю для беларускіх журналістаў.

«Я раздзяляю меркаванне, што выбух у метро выкарыстоўваецца, каб узмацніць рэпрэсіі. Эканамічныя санкцыі, з імі трэба быць асцярожнымі, бо гэта можа прывесці да шкоды простым грамадзянам».

Што датычыць закрыцця газет «Наша Ніва» і «Народная Воля», то нямецкі чыноўнік зазначыў: «Кожны раз звяртаем увагу на непрымальнасць такога кроку. Мы будзем гэта крытыкаваць, як і зняволенне дэманстрантаў».

Пофала кажа, што перад Новым годам меў размову з Уладзімірам Макеем. Нямецкі чыноўнік казаў пра неабходнасць вызвалення вязняў. Больш гутарак з беларускім бокам не было.

**ЗП, Вільня**

# Суд па шаблоне

**У Беларусі з'явіліся пяць новых палітзняволеных: Вінаградаў, Кіркевіч, Дрозд, Пратасеня і Хамічэнка.**

Працэс над чарговымі пяццю ўдзельнікамі Плошчы, які працягваўся ў Кастрычніцкім судзе Мінска з 27 красавіка да 5 мая, толькі пацвердзіў сумную праўду. Што б ні казалі абвінавачаныя, што б ні даказвалі адвакаты і сведкі, прысуд па справе «аб масавых беспарадках» будзе такі, які просіць пракурор. Павел Вінаградаў, Алесь Кіркевіч, Зміцер Дрозд, Андрэй Пратасеня і Уладзімір Хамічэнка — кожны з іх меў уласную стратэгію паводзінаў... і кожны з іх атрымаў ад суддзі Алы Булаш вырак — тры-чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Стандарт для ўдзельнікаў Плошчы. Яшчэ за паўдня да абвяшчэння прысуду супрацоўнікі суда дзяліліся адзін з адным інфармацыяй, якія лічбы зняволення будуць агучаныя.

### Павел Вінаградаў

Меркавалася, што менавіта «нязломны Вінаградаў», як празвалі яго ў інтэрнэце, атрымае найбольшы тэрмін зняволення. Па-першае, ён быў асуджаны ў свой час па «справе 14-ці» пасля акцыі прадпрымальнікаў у 2008 годзе. Па-другое, апроч стандартнага абвінавачвання ва ўдзеле ў масавых беспарадках, яму «шылі» дадатковы артыкул за здзек з дзяржаўных сімвалаў. (Відэазапіс чатырохгадовай даўніны, на якім група маладзёнаў спальвае пудзіла Лукашэнкі з чырвона-зялёнай сімволікай, быў знойдзены на камп'ютары Вінаградава падчас ператрусу.) Праўда, актывіст не атрымаў дадатковага тэрміну зняволення праз скончэнне тэрміну даўніны.

«Мне цікава, як следства змагло выявіць, што я падчас спальвання быў у стане алкагольнага ап'янення?» — пацікавіўся Вінаградаў падчас апошняга слова.

Гэтая невялікая прамова была адзіным выступленнем актывіста падчас шматдзённага судовага працэсу. Ён дэманстратыўна адмовіўся даваць якія-кольвек паказанні — сядзеў і ўсміхаўся людзям, якія прыйшлі яго падтрымаць.

«Я нарадзіўся і вырас з іншай дзяржаўнай сімволікай. Калі я выйду з турмы – а я абавязкова выйду! – буду змагацца і надалей», — паабяцаў Вінаградаў, сарваўшы авацыі залы.

Суддзя разгублена дачакалася цішыні, папярэдзіла ўсіх прысутных і ўрэшце пакарала Паўла чатырма гадамі калоніі.



Павел Вінаградаў (злева) і Зміцер Дрозд.

### Алесь Кіркевіч

У адрозненне ад Вінаградава, зусім юны гродзенскі маладафронтавец Алесь Кіркевіч на судзе выглядаў змучаным. Абсурднае абвінавачванне, якое актывіст катэгарычна адмовіўся прызнаваць, прынесла яму такі ж тэрмін зняволення, як і Вінаградаву. «Нанёс не менш за адзін удар па дзвярах Дома ўрада», — вось цана чатырох гадоў жыцця, па меркаванні суддзі Алы Булаш і дзяржаўнага абвінаваўцы Аляксандра Бароўскага.

У сваім апошнім слове Алесь заявіў, што бачыць толькі адзін фактар свайго абвінавачвання — палітычную пазіцыю і палітычную сілу, якую ён прадстаўляе. «Я спадзяюся, што ў гэтай краіне засталося хоць трошкі законнасці, і хай Бог благаславіць суд на рашэнне», — скончыў ён.



Алесь Кіркевіч.

### Зміцер Дрозд

Малавядомы ў палітычных колах мінскі архівіст стаў нечаканасцю працэсу. Ніхто не чакаў ад яго палымяных прамоў, якіх не магла стрымаць нават суддзя. «Калі б у мяне было жаданне прынесці штых-нож, я б прынёс [на Плошчу] штых-нож, які ў мяне знайшлі дома падчас вобшуку, а не мегафон. Я далучыўся не да «бясчынствуючай талпы», а да беларускага народа», – заявіў ён.

Дрозд спрабаваў дагрукацца да здаровага сэнсу суддзі. Марна. «Успрымаю свае апошнія слова як сапраўды апошняе. На машыне часу мы перанесліся ў 1938 год. Я апынуўся ў клетцы за тое, што я люблю Беларусь. Трэба адразу браць рэчы і з'язджаць з краіны, каб не бачыць катаў. Досвед маёй сям'і паказвае, што, калі да ўлады прыходзяць такія людзі, трэба з'язджаць, — сказаў ён у апошнім слове і папрасіў: — Я прашу даць мне восем, няхай дзесяць гадоў пакарання, але каб я мог быць дома і рэалізоўваць свае творчыя планы».

Дрозд прызнаўся, што следчы адразу папярэдзіў яго: калі не прызнаеш віну, атрымаеш тры з паловай гады; прызнаеш – тры гады. Зміцер вырашыў не здавацца, катэгарычна адмовіўся прызнаць сябе вінаватым і нечакана стаў адзіным, каму суддзя скараціла тэрмін зняволення хаця б на паўгода.

### Андрэй Пратасеня

30-гадовы валанцёр перадвыбарчай кампаніі Ярослава Раманчука, у адрозненне ад астатніх абвінавачаных, цалкам прызнаў сваю віну. Хоць колькасць нанесеных ім удараў была большай, чым у астатніх падсудных, а ягоная яркая жоўтая куртка мільгала шмат на якіх відэазапісах з Плошчы, Андрэй атрымаў мінімальна магчымае зняволенне па артыкуле аб масавых беспарадках — тры гады. Дапамаглі станоўчыя характарыстыкі і раскаянне.

Андрэй — праграміст і каскадзёр, які ўзяў актыўны ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі.

### Уладзімір Хамічэнка

Загадка Плошчы, кім насамрэч быў чалавек-«навушнік», так і не была разгаданая. Ці то ім маніпулявалі, ці то ён сам неадэкватна ўспрымаў рэчаіснасць? Ён таксама атрымаў тры гады зняволення. І прымусовае лячэнне ад алкагалізму ў дадатак.

Старанная праца адвакаткі Наталлі Мацкевіч не дапамагла Хамічэнку. «Па дарозе ад Кастрычніцкай да плошчы Незалежнасці я выпіў агулам чатыры літры піва», — расказваў «навушнік». Але як тое можна было паспець? Стваралася ўражанне, што чалавек з відавочнымі асаблівасцямі развіцця дагэтуль не зразумеў, што адбылося на Плошчы. Хоць крымінальнае мінулае Хамічэнкі ўсё адно наводзіць на падазрэнні, што ён апынуўся на мітынгу далёка не выпадкова.

**Яўген Васількоў**

**«За палітычную дзейнасць — найбольшы тэрмін»**

Надзея Крапівіна, жонка Алеся Кіркевіча, іншага прысуду і не чакала. «Пасля працэсу Атрошчанкава было зразумела, што менавіта такія выракі атрымаюць усе астатнія па артыкуле аб масавых беспарадках», — кажа Надзея. Нагадаем, што Алесь апынуўся ў «амерыканцы» літаральна праз тыдзень пасля таго, як маладыя пабраліся шлюбам.

**«НН»: На тваю думку, чаму Вінаградаў і Кіркевіч атрымалі пакаранне, большае за астатніх?**

**Надзея Крапівіна:** Бо Алесь і Паша займаліся палітычнай дзейнасцю.

**«НН»: Ці правільную стратэгію абраў Алесь, не прызнаўшы сваю віну?**

**НК:** Алесь абраў адзіную магчымую стратэгію… На жаль, тое, што робяць адвакаты ці падсудныя, ніякім чынам не ўплывае на прысуд. І ўсё ж, як толькі мы атрымаем на рукі рашэнне суда, адразу ж будзем яго абскарджваць.

# Міхалевіч:
## Магчыма, буду ўдзельнікам суда над Лукашэнкам

Былы кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч на мінулым тыдні ўпершыню з моманту ўцёкаў выехаў з Чэхіі. Міхалевіч гасцюе ў Вільні, дзе і сустрэўся з беларускімі журналістамі.

Турма зрабіла сваю справу, Міхалевіч выглядае падцягнутым. Кажа, што ў чэшскай сталіцы адчувае сябе бяспечней, чым у літоўскай, бо адчувае блізкасць беларускіх спецслужбаў. Алесь прадэманстраваў дакумент, які ён атрымаў як палітычны ўцякач у Чэхіі. Ён дазваляе перамяшчацца па ўсёй Еўропе.

Наступная паездка мусіць быць у швейцарскі Цюрых, дзе Міхалевіч возьме ўдзел у працы камісіі ААН па катаваннях.

Чакае Міхалевіч і паездкі ў Лондан: «Там я магу стаць адным з ключавых удзельнікаў суда над Лукашэнкам».

«Людзей, якія былі зацікаўленыя ў дэстабілізацыі Плошчы, хапала. Зразумела, што біццё шкла ў дзвярах Дома ўрада было спланавана. Але хто за гэтым стаіць, я не ведаю. У той час, відавочна, што рэакцыя ўлады неадэкватная», — адказаў Міхалевіч на пытанне «Нашай Ніве», па чым сцэнары развіваюцца падзеі.

«Ад гэтага не выйграў ніхто. Улады згубілі магчымасць атрымання крэдытаў з Захаду. Апазіцыя сядзіць у турмах. Расія ж зацікаўленая мець прадказальнага партнёра».

Міхалевіч не лічыць, што падчас выбарчай кампаніі дапускаў нейкія істотныя памылкі. «Мая мяккая пазіцыя ў дачыненні да цяперашняга кіраўніцтва была расцэненая як праява слабасці, таму я і апынуўся за кратамі», — кажа Алесь.

Пасля выезду ў Чэхію Міхалевіч стаў прыхільнікам санкцый. Усё, што робіцца ў гэтым кірунку, кажа ён, набліжае Беларусь да вызвалення палітвязняў і дэмакратыі. Уладу ён пачаў называць словам «дыктатура», што раней для Міхалевіча было нехарактэрна.

Дарэчы, на мінулым тыдні ён нарэшце змог пабачыцца ў Вільні з сям'ёй. Алесь спадзяецца, што хутка яны зноў змогуць жыць разам.

**Зміцер Панкавец, Вільня**

# Някляеў: Нас судзяць, бо мы дамагаліся свабодных выбараў

**Працяг са старонкі 2.**

Калі нават гэты эпізод, у часе якога быў здзейснены замах на маё жыццё, перакручаны ў абвінавачванні так, нібы гэта я напаў на тых, хто ледзь не забіў мяне, дык што ўжо казаць пра ўсе астатнія эпізоды гэтага, так бы мовіць, «юрыдычнага дакумента». Ну вось самы пачатак яго: «Так он (гэта значыць, я) в ноябре 2009 года принял участие в кампании «Говори правду!» в качестве ее лидера, достоверно зная о том, что данная кампания будет проводиться как фоновая кампания для выдвижения его на политическую сцену в качестве кандидата в Президенты Республики Беларусь».

У кастрычніку 2009 года я не ведаў не толькі пра тое, што буду кандыдатам у прэзідэнты, а нават пра тое, што ёсць такая кампанія «Гавары праўду», бо ляжаў з гіпертанічным крызам у шпіталі.

Мой удзел у падзеях 19 снежня заняў 7 хвілін часу. Не расцягнутага касмічнага, а звычайнага зямнога. Так што я не разумею, што я раблю ў гэтым судзе, калі толькі ў бяспамяцтве не ўчыніў за тыя 7 хвілін нешта такое, за што мяне можна судзіць.

Тым не менш, трэба бараніцца...

Усіх нас, хто знаходзіцца і ў гэтым судзе, і ў іншых судах на лаве падсудных па так званай справе 19 снежня, абвінавачваюць па сутнасці ў адным: у тым, што мы дамагаліся свабодных, справядлівых, дэмакратычных выбараў і іх праўдзівых вынікаў.

Але паколькі артыкула, па якім наўпрост за гэта можна было б судзіць і караць, у крымінальным кодэксе няма, нас судзяць і караюць за Плошчу. Адных — як яе арганізатараў, іншых — як удзельнікаў, але ўсіх — за адно. Таму, выступаючы ў сваю абарону, я выступаю і ў абарону маіх сяброў. Якіх люблю і паважаю.

Мне прад'яўлена абвінавачванне, якое цалкам сканструяванае на вельмі хісткім падмурку. На тым, што прычына, па якой арганізатары заклікалі на Плошчу яе ўдзельнікаў, нібыта НАДУМАНАЯ. Цытую: «В период с 18 ноября по 18 декабря 2010 г. Некляев В. П., являясь кандидатом на должность Президента Республики Беларусь... через средства массовой информации, а также в ходе выступлений перед избирателями призывал их прибыть 19.12. 2010 года в 20.00 на Октябрьскую площадь г. Минска... Для активизации сбора граждан Некляев В.П. использовал НАДУМАННЫЙ предлог о недемократичности выборов Президента Республики Беларусь и возможной фальсификации их результатов Центральной избирательной комиссией Республики Беларусь».

Пра тое, што НАДУМАНАСЦЬ не ёсць юрыдычны тэрмін, не прававая катэгорыя, ужо казаў на гэтым судзе Аляксандр Фядута. Гэта дзяўчынка можа надумаць, што хлапчук яе не кахае. Палітык не надумвае, а робіць высновы. Прагназуе, зыходзячы з рэальнасці.

Надуманай прычынай называецца ў абвінавачванні «недэмакратычнасць выбараў і магчымая фальсіфікацыя іх вынікаў». Зусім нескладана давесці, што насамрэч яно не так, што прычына не надуманая, бо недэмакратычнае правядзенне прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і фальсіфікацыя іх вынікаў былі цалкам верагодныя. Прагназаваныя.

Высокі суд лепш за мяне ведае, што такое юрыдычны прэцэдэнт, няхай сабе ў нашай юрыдычнай практыцы ім амаль не карыстаюцца. Але ў свой час ён быў асноўным у судовай практыцы ва ўсёй Еўропе, сёння выконвае вядучую ролю ў Англіі ды іншых краінах з англасаксонскім правам.

Прэцэдэнт з'яўляецца тады, калі патрабуецца юрыдычнае рашэнне, а неабходнай нормы ў заканадаўстве няма. Ён, прэцэдэнт — вынік логікі і здаровага сэнсу. У прыватнасці, з яго вынікае: тое, што было аднойчы, можа быць і двойчы, і паўтарацца незлічонную колькасць разоў.

Гэта так?.. Так.

Прэзідэнцкія выбары 2010 года — не першыя выбары ў Рэспубліцы Беларусь. Былі прэзідэнцкія выбары 1994, 2001 і 2006 гадоў. Толькі адны з іх, выбары 1994 года, на якія не магла ўплываць сённяшняя выканаўчая ўлада, былі праведзеныя па стандартах, набліжаных да дэмакратычных, — і былі прызнаныя міжнароднай дэмакратычнай супольнасцю. Выбары 2001 і 2006 гадоў праводзіліся ўжо пры цяперашнім палітычным рэжыме, яны не былі свабоднымі, не былі справядлівымі, вынікі іх былі сфальсіфікаванымі. Факт іх фальсіфікацыі засведчаны не толькі ў дакладах міжнародных арганізацый, якія назіралі за выбарамі, — ён прызнаны самой беларускай уладай.

Вось факт. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года, 23 лістапада на

**Сёння Беларусь у такой небяспецы, у якой не была ад часоў абвяшчэння незалежнасці.**

прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў новаабраны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў (цытую па арыгінале): «Последние выборы мы сфальсифицировали, я уже западникам это говорил. За президента Лукашенко проголосовало 93,5 процента. Мы сделали 86. Это правда было. И если сейчас начать пересчитывать бюллетени, то я не знаю, что с ними делать вообще».

Падкрэсліваю: факт фальсіфікацыі прызнаны. Тады на якой падставе гэты юрыдычна бясспрэчны прэцэдэнт кваліфікуецца ў абвінавачванні, у юрыдычным дакуменце, як надуманы? Хіба таму, што лічбы сфальсіфікаваныя ў бок змяншэння, а не павелічэння?..

Перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года, 1 кастрычніка на прэс-канферэнцыі для расійскіх рэгіянальных СМІ Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў фальсіфікацыю вынікаў выбараў 2006 года і вызначыў, колькі працэнтаў набярэ на выбарах 2010 года апазіцыя і колькі набярэ ён, заявіўшы (цытую па арыгінале): «У них знаете, сколько сторонников? Чистых сторонников нашей оппозиции? У нас есть списки их всех. 400 человек — это боевой отряд. А самое массовое — сторонники, которые могут в открытую противостоять властям на митингах, демонстрациях — 800 человек. Ну, может, еще 100–150 тысяч могут поддержать их на выборах».

Тут лічу не лішнім нагадаць, што ў час збору подпісаў толькі за Уладзіміра Някляева падпісалася 230 тысяч чалавек, 160 тысяч за Саннікава, а ўсяго за вылучэнне кандыдатаў ад апазіцыі прагаласавалі сваімі подпісамі больш як мільён грамадзян Беларусі! Дзе гэтыя людзі, куды іхнія галасы падзеліся на выбарах? Быў нейкі мор, чума, яны вымерлі? З'ехалі за мяжу?..

Але цытую далей: «Мне бы хотелось, чтобы проголосовали две трети за меня — это конституционное большинство и выражение высочайшего доверия, где-то 70–75 процентов. Не надо как в прошлый раз, больше 90 процентов».

У прэзідэнцкіх выбарах 2010 года бралі ўдзел каля шасці з паловай мільёнаў выбарцаў. 150 тысяч з іх, якія, як «прагназаваў» Лукашэнка, маглі прагаласаваць за апазіцыю, — гэта прыблізна 2, 4%. Цяпер глядзім афіцыйныя вынікі галасавання на выбарах, пададзеныя Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Вы не паверыце: за кандыдата ад апазіцыі, які па афіцыйных выніках заняў другое месца ўслед за дзейным прэзідэнтам, аддадзена роўна столькі галасоў, колькі «спрагназаваў» Лукашэнка. 156 тысяч, або 2,43%! Усяго на 0,03% памыліўся дзейны прэзідэнт. Экстрасэнс... А вось за яго самога прагаласавала выбарцаў куды болей ад ягонага «прагнозу». Не 75%, а 79,65%. Тут ЦВК палічыла большае не лішнім.

Цяпер пытанне: як у маіх дзеяннях і ў дзеяннях маіх таварышаў можна ўбачыць «надуманный предлог», калі на выбары загадзя даваліся ўстаноўкі, калі фальсіфікацыя вынікаў выбараў прагназавалася? І на выкананне гэтых установак працавала не толькі Цэнтральныя выбарчая камісія, а ўся выканаўчая ўлада. У тым ліку і праваахоўныя органы, пракуратура, судовая сістэма — як падраздзяленні так званай «вертыкалі». Гэта не так? Так. Я сам разам з прысутнымі тут Андрэем Дзмітрыевым і Сяргеем Вазняком без ніякіх тлумачэнняў і прабачэнняў быў арыштаваны і гэтаксама без ніякіх тлумачэнняў і прабачэнняў праз трое сутак вызвалены з-пад варты. Вось пасля гэтага, дарэчы, а не ў «кастрычніку 2009 года», я і прыняў рашэнне ісці на прэзідэнцкія выбары! Каб перамагчы на іх і змяніць сістэму самаўпраўства і беззаконня.

Пра тое, што выбары былі сфальсіфікаваныя, а гэта значыць, што мы ў прагнозах сваіх, на жаль, не памыліліся, сведчаць нават дзяржаўныя СМІ.

«Советская Белоруссия», газета прэзідэнцкай адміністрацыі, праз месяц пасля выбараў (21 студзеня) друкуе матэрыял пад назвай «НИСЭПИ: уверенная и однозначная победа». У матэрыяле падаюцца вынікі выбараў згодна з нацыянальным апытаннем Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, які (цытую ў арыгінале) «пришел к выводу, что А.Лукашенко вновь с колоссальным отрывом от соперников выиграл президентские выборы и это не подлежит никакому сомнению. Соперники получили незначительное по сравнению с А.Лукашенко количество голосов (В.Некляев — 8,3 процента, А.Санников — 6,1 процента)». Далей НІСЭПД рэкамендуецца як вельмі паважная ўстанова, з чаго вынікае, што даследаванням яго цалкам можна давяраць. «Можно смело утверждать, что НИСЭПИ никогда не был замечен в скрытых симпатиях к сегодняшней белорусской власти, поэтому, опубликовав результаты своего

**БТ заявіла, што ў офісе кандыдата ў прэзідэнты Някляева была знойдзеная зброя. Дык дзе яна падзелася? Чаму ні слова пра яе няма ў крымінальнай справе?**

опроса, НИСЭПИ нанес нокаутирующий удар по бесчестным попыткам фальсификаторов итогов выборов» — катэгарычна сцвярджае газета прэзідэнцкай адміністрацыі.

Яно і сапраўды так: «нокаутирующий удар». 51,1% набраў на выбарах Лукашэнка па дадзеных інстытута, якому цалкам можна давяраць! Тады як быць з дадзенымі ЦВК? Ім давяраць не цалкам? Што болей заслугоўвае даверу?.. А ўсё! І тое, і гэтае! І напляваць, што яно адно з адным не сыходзіцца. Стукнем з двух бакоў — амапам і спецназам — і сыдзецца!

Чаму газета прэзідэнцкай адміністрацыі змушаная была шукаць доказы чарговай «элегантнай перамогі» дзейнага прэзідэнта хоць у якой-небудзь незалежнай крыніцы? Таму што ў жаданні ўслужыць гаспадару ЦВК перастаралася, выклікаўшы недавер да вынікаў галасавання нават у адэптаў улады, якімі з'яўляецца пераважная колькасць чытачоў газеты «Советская Белоруссия».

У дакументах, якія я прашу суд далучыць да матэрыялаў справы, зафіксаваныя парушэнні Выбарчага кодэкса на ўсіх этапах прэзідэнцкіх выбараў. Апроч сотняў асобных парушэнняў, у дакументах выяўлена агульнае нежаданне ўлады правесці выбары свабодна і справядліва. Скаргі на гэта падаваліся і ў час выбарнай кампаніі, і адразу пасля выбараў, але Цэнтральная выбарчая камісія факты парушэнняў, абыходзячыся адпіскамі, ігнаравала, бо сама за гэтымі парушэннямі і стаяла. «Я птица подневольная, член команды президента», — прызналася ў інтэрв'ю «Еўрарадыё» старшыня ЦВК.

Скарга на незаконную пастанову Цэнтральнай выбарчай камісіі ад 24 снежня 2010 года № 174 была пададзеная ў Вярхоўны суд, які, згодна з 60-м артыкулам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, быў АБАВЯЗАНЫ вынесці рашэнне па скарзе, але нават не прыняў яе да разгляду. Аднак гэта не азначае, што дакументаў з фактамі, доказамі таго, што выбары праведзены несвабодна і несправядліва, што яны сфальсіфікаваныя, няма. Яны ёсць! І яны стануць падставай для будучага суда над тымі, хто пайшоў на дзяржаўнае злачынства. Хто з парушэннямі Закона правёў прэзідэнцкія выбары. Прычым, з парушэннямі не толькі Выбарчага кодэкса, але і Канстытуцыі.

Прагназуючы недэмакратычныя выбары 2010 года, мы сыходзілі не толькі з бягучых парушэнняў, зафіксаваных на іх. Хацеў бы звярнуць увагу на тое, што, апроч прэзідэнцкіх выбараў, не атрымалі прызнання міжнародных дэмакратычных назіральнікаў і парламенцкія выбары, а таксама ніводны з праведзеных у Беларусі рэферэндумаў, ініцыятарам якіх быў кіраўнік дзяржавы. Вынікі гэтых рэферэндумаў, таксама сфальсіфікаваныя, нанеслі відавочную шкоду краіне і народу.

Рэферэндум 1995 года пазбавіў Беларусь нацыянальных сімвалаў, разбурыў нашу гістарычную памяць і, па сутнасці, вывеў з дзяржаўнага ўжытку нацыянальную мову. Вораг не прыдумаў бы такога, што зрабіў з Беларуссю першым сваім рэферэндумам першы беларускі прэзідэнт. Гэта і стала прычынай майго канфлікту з Лукашэнкам, з уладай, якая выявіла сваю антынацыянальную сутнасць. Для мяне, беларускага паэта, дый проста для беларуса, які мае нацыянальны гонар, адчувае нацыянальную годнасць, гэта была знявага. Гэта, канешне, не мае дачынення да 1-й часткі 342-га артыкула, па якім мяне абвінавачваюць і будуць судзіць, але я хачу, каб і высокі суд, і не нізкі пракурор зразумелі прычыну, па якой я, паэт, апынуўся ў палітыцы. Менавіта па гэтай прычыне і ў 2001, і ў 2006 годзе я стаяў на Плошчы, а ў 2010 пайшоў на яе праз прэзідэнцкія выбары. І я буду заклікаць на яе, і буду стаяць на ёй, на Плошчы нашай будучыні, да той пары, пакуль не збяруцца на ёй усе беларусы і не выдыхнуць адным дыхам: «Жыве Беларусь!»

Я хачу папярэдзіць пытанне шаноўнага пракурора, якое ён задае ўсім падсудным: чаму я заклікаў людзей прыйсці менавіта на Кастрычніцкую плошчу? Мог жа заклікаць у іншае месца. І, маўляў, не меў бы праблем.

Ёсць рэчы куды вышэйшыя і за юрыспрудэнцыю, і за палітыку. Сакральныя рэчы. Праз якія чалавек і ёсць чалавек, а не проста юрыст альбо палітык. У 50-х гадах у Смаргоні, дзе я жыў у дзяцінстве, зруйнавалі царкву. І мая маці, і я з ёй маліліся пад яблыняй. Мы яе называлі Яблыня-царква. Мая маці памерла, а царкву ў Смаргоні збудавалі новую. Але малюся я, калі туды прыязджаю, пад яблыняй. Там, дзе стаяла маці.

На Плошчы, якая будзе некалі Плошчай Каліноўскага, стаялі ўсе мае сябры. І тыя, якіх дыктатура кінула ў эміграцыю, і тыя, якіх яна знішчыла. Я стаю на гэтай Плошчы разам з імі.

Я паэт. У мяне не «судовапрацэсуальнае» мысленне. І з гэтым ніхто і нічога ўжо не можа зрабіць. Ні я сам, ні хто-небудзь іншы.

У абвінавачванні сцвярджаецца, нібыта тое, што адбылося на Плошчы, планавалася загадзя. Можа быць, і планавалася, але не мной і ўвогуле не апазіцыяй.

Няпраўда, што мы ад пачатку бачылі Плошчу 2010 года толькі як акцыю супраціву. У першым сваім выступе па Беларускім тэлебачанні я заклікаў людзей святкаваць, а не пратэставаць. Пратэставая Плошча разглядалася толькі як адзін з варыянтаў — толькі пры ўмове несвабодна праведзеных выбараў. На жаль, з улікам таго, як праводзіліся ўладай папярэднія выбары, з улікам прэцэдэнтаў, гэты варыянт, паўтараю, падаваўся нам зусім верагодным. І чым бліжэй было да дня выбараў, тым больш фіксавалася парушэнняў, тым больш цынічна тапталі закон.



**Уладзімір Някляеў**

нар. 9 ліпеня 1946 у Смаргоні. Бацька — Някляеў Пракофій (Пракоп) Мікалаевіч — рускі, маці — Магер Анастасія Іванаўна, беларуска. Пражыў дзіцячыя гады ў Крэве. Вучыўся ў Мінскім электратэхнікуме сувязі (1962 — 1966), на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута (1971, Масква), скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (1973).

Працаваў сувязістам на Поўначы, у Сібіры, на Далёкім Усходзе, радыёмеханікам у мінскім тэлевізійным атэлье. Супрацоўнічаў у газеце «Знамя юности», рэдагаваў бюлетэнь «Тэатральны Мінск», быў старшым рэдактарам галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1998 па 2001 — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Ад лютага 2010 — лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!»

Быў вылучаны кандыдатам у прэзідэнты на выбары 2010. За ягонае вылучэнне было сабрана найбольш подпісаў (акрамя Лукашэнкі). Паводле звестак з тых акруг Мінска, дзе камісіі дазволілі назіральнікам сачыць за падлікам галасоў і запаўненнем бюлетэняў ад пачатку да канца, выходзіў на трэцяе месца з больш чым 10%.

Калі б на гэтым судзе шукалі праўду пра падзеі 19 снежня, дык дазнаваліся б, хто і чаму хацеў забіць кандыдата ў прэзідэнты.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

4 студзеня 2010 года ў Выбарчы кодэкс быў унесены шэраг зменаў і дапаўненняў, у тым ліку, некаторыя з рэкамендацый АБСЕ.Пры гэтым улады адхілілі большасць прапановаў аб зменах выбарчага заканадаўства, якія былі ўнесеныя прадстаўнікамі апазіцыйных палітычных партый. Таму змены не прывялі да вырашэння сістэмных праблемаў выбарчага заканадаўства Беларусі: адсутнасці незалежных і збалансаваных выбарчых камісій; адсутнасці заканадаўча замацаванай дэталізацыі працэдураў падліку галасоў; адсутнасці гарантый роўнасці ўсіх кандыдатаў, якія бяруць удзел у выбарах. Паводле меркавання АБСЕ і Венецыянскай камісіі Рады Еўропы, «унесеныя змены не вырашаюць фундаментальную праблему, якая заключаецца ў тым, што прававыя рамкі для правядзення выбараў у Беларусі па-ранейшаму не дазваляюць стварыць аснову для сапраўды дэмакратычных выбараў».

15 верасня ЦВК прыняла пакет пастановаў і іншых дакументаў па арганізацыі і падрыхтоўцы выбараў, якія не ўтрымлівалі істотных адрозненняў ад аналагічнага пакета, зацверджанага напярэдадні выбараў 2006 года. ЦВК не прыняла прапановаў, рэалізацыя якіх спрыяла б транспарэнтнасці і справядлівасці выбарчага працэсу, такія як фарміраванне ўчастковых выбарчых камісій у першую чаргу з прадстаўнікоў палітычных партый, абарона бюлетэня для галасавання ад падробак ды інш. Акрамя таго, ЦВК адмовіла ў магчымасці кругласутачнай прысутнасці назіральнікаў на выбарчых участках падчас датэрміновага галасавання і некалькі разоў адхіляла прапанову аб растлумачэнні парадку падліку галасоў, г. зн. ігнаравала тыя бакі выбарчага працэсу, якія найбольш спрыяльныя для фальсіфікацый.

Усяляк абмяжоўваўся ўдзел прадстаўнікоў апазіцыі ў выбарчым працэсе. Да прыкладу, у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій былі ўключаны 2 000 сяброў. Колькасць прадстаўнікоў апазіцыйных партыяў, уключаных у склад ТВК, склала 14 чалавек, ці 0,7% ад агульнай колькасці сяброў ТВК.

У склад 6 346 участковых выбарчых камісій, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, былі ўключаныя 70 815 сяброў. З 1073 кандыдатаў ад апазіцыйных палітычных партый у склад УВК увайшлі толькі 183 чалавекі, ці 17,1%. Напрыклад, з 69 прадстаўнікоў, вылучаных чатырма апазіцыйнымі партыямі, у склад УВК Мінскай вобласці трапілі толькі 7 чалавек (10,1%).

Адміністрацыя Ленінскага раёна г. Мінска сфарміравала УВК за 5 хвілін (з 1 101 кандыдатуры — 950 сяброў камісій). Прадстаўнікі

**Тое, што адбылося перад Домам урада, планавалася загадзя. Але не мной і не апазіцыяй.**

апазіцыйных партый склалі 0,25% ад агульнай колькасці сяброў УВК і былі прадстаўлены менш чым у 3% УВК.

Я як кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь рабіў усё дзеля таго, каб мець сваіх прадстаўнікоў ва ўсіх выбарчых камісіях. Але ў іх не было ўключана ніводнага майго прадстаўніка. І гэта справядлівыя выбары?.. 240 скаргаў былі пададзеныя кандыдатамі і іх даверанымі асобамі, а таксама іншымі суб'ектамі выбарчага працэсу да пачатку галасавання, і толькі тры былі задаволены.

І гэтак далей, і гэтак далей...

Як зафіксавана ў дакументах, якія я прашу суд далучыць да матэрыялаў «крымінальнай» справы, у заявах альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты, у пададзеных у ЦВК і Вярхоўны суд скаргах, а таксама ў дакладах місіі кароткатэрміновых назіральнікаў АБСЕ і ПА АБСЕ і доўгатэрміновай місіі па назіранні за выбарамі БДІПЧ АБСЕ, прэзідэнцкія выбары ў Беларусі прайшлі і не свабодна, і не справядліва. Былі сфальсіфікаваныя. Як я ўжо казаў, такой верагоднасці мы не выключалі, таму і разглядалі Плошчу як мірную акцыю пратэсту супраць несвабодных і несправядлівых выбараў з патрабаваннем выбараў новых. Новыя выбары былі адзінай магчымасцю пазбегнуць негатыўных для краіны палітыка-эканамічных наступстваў, якія маем сёння, а Плошча была адзінай магчымасцю папярэдзіць пра гэта грамадства. Каб сказаць народу, што несправядлівыя і несвабодныя выбары збіраюцца назваць справядлівымі і свабоднымі, а іх сфальсіфікаваныя вынікі абвясціць праўдзівымі, а значыць, здзейсніць дзяржаўнае злачынства, ніякай іншай магчымасці, апроч Плошчы, у мяне не было.

Магчымасці звярнуцца да людзей праз сродкі масавай інфармацыі я быў пазбаўлены ад 3 снежня 2010 года. Таму я як адзін з кандыдатаў у прэзідэнты заклікаў маіх прыхільнікаў на Кастрычніцкую плошчу горада Мінска, дзе традыцыйна, як яно было і ў 2001, і ў 2006 гадах, збіраюцца грамадзяне ў дзень выбараў. Права на свабоду мітынгаў, дэманстрацый і шэсцяў гарантаванае грамадзянам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыяй — і яго нельга адмяніць пастановамі ведамстваў, а тым больш нельга забараніць скарыстацца гэтым канстытуцыйным правам у дні, якія ёсць вызначальныя для будучыні дзяржавы і народа.

Плошча — храм, куды мы ідзём з малітвай за нашу Беларусь.

Апроч права, якое гарантуе мне Канстытуцыя, я абаронены ад праследу за заклік на Плошчу артыкулам 36 КК Рэспублікі Беларусь. Мае дзеянні цалкам падпадаюць пад палажэнні гэтага артыкула. Праз меншае парушэнне (адміністрацыйнае: удзел у несанкцыяваным мерапрыемстве) я спрабаваў прадухіліць парушэнне большае (крымінальнае: прызнанне справядлівымі несправядлівых выбараў). Разам з іншымі кандыдатамі ў прэзідэнты я збіраўся правесці мітынг, які б прыняў рэзалюцыю з непрызнаннем несправядлівых выбараў і патрабаваннем выбараў новых, справядлівых. У крымінальнай справе няма ніякіх доказаў, што я планаваў нешта іншае.

Каб не было ніякай небяспекі для людзей, я публічна і пісьмова прасіў спрыяння ў падтрыманні парадку на Плошчы ў міністра ўнутраных спраў і старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі. На жаль, не дачакаўся ад іх аніякага адказу. За іх мне і астатнім кандыдатам адказаў былы дзейны прэзідэнт, які стаў новым дзейным прэзідэнтам: «Мне з бандытамі і тэрарыстамі няма пра што размаўляць». І было гэта задоўга да сённяшняга суда, які пакуль не прызнаў мяне ні за бандыта, ні за тэрарыста. І, спадзяюся, не прызнае. Больш за тое: я спадзяюся, што суд прызнае мяне і маіх сяброў ні ў чым не вінаватымі — і тым самым спыніць канвеер рэпрэсій. Прыме на палітычным працэсе палітычнае рашэнне.

Мне б хацелася, каб высокі суд зразумеў, наколькі гэта важна. Асэнсаваў значнасць таго, што адбываецца тут і цяпер, для нашай бліжэйшай і далейшай будучыні. Усвядоміў, што сёння наша незалежная Беларусь у такой небяспецы, у якой не была яна ад часоў абвяшчэння незалежнасці.

Я не надта заклапочаны тым, чым скончыцца гэты суд для мяне асабіста. Прысудзяць мяне да года, да двух ці трох гадоў зняволення. Мяне значна больш хвалюе тое, што праз год, праз два ці тры гады будзе з Беларуссю. Лёс Беларусі для мяне важней за мой асабісты лёс — і ў гэтым я магу паклясціся перад судом і перад Богам.

Напрыканцы хачу сказаць пра тое, што насамрэч не мае адносін да «крымінальнай» справы, але мае адносіны да нас. Да жыцця, якое мы пражываем.

Суд нагадвае мне ў нечым такую сямейную сітуацыю... Дзеці з бацькам і маці сядзяць у хаце, а тут да маці сяброўка заскоквае: «У краму нашу нешта такое прывезлі, такое!.. Я бягу, ты са мной?» Маці, канешне, з ёй. «Ты ж глядзі ў мяне дзяцей глядзі!» — крычыць, выбягаючы, бацьку. А той глядзіць тэлевізар. Усё сумна, хакея няма. Тут сябрук тэлефануе: «Мы з Ваванам на піва, ты з намі?» Бацька, канешне, з імі, але ж трэба нечым дзяцей заняць. І ён прыдумляе для іх гульню ў суд. «Ты, Жанначка, — суддзя, ты, Андрэйка, — пракурор, а Настачка, Сяргейка, Віталік — падсудныя. І глядзіце ў мяне: гуляйце, як бацька сказаў. А то прыйду ды дзягі дам!» Дзеці хоць і не надта хочуць (Жанначка ў мадэльку гуляла б, Андрэйка — у хакера), але паслухмяна гуляюць у суд, бо раптам бацька з дзягай прыйдзе...»

Мы не дзеці. Дарослыя людзі ў дарослым жыцці павінны прымаць самастойныя рашэнні. Такія, за якія нам не было б сорамна перад нашымі дзецьмі.

**6 мая 2011 г.**

# Санаторый ці сметніца?





«Санаторый — найбуйнейшы курорт Беларусі — размешчаны ў маляўнічай мясцовасці. Паветра, насычанае кіслародам, прыгажосць навакольнага хваёва-бярозавага лесу, атмасфера ўтульнасці і добразычлівасці зачаруюць вас. Санаторый ідэальны для аднаўлення здароўя, індывідуальнага і сямейнага адпачынку». Так пачынаецца рэкламны праспект санаторыя «Крыніца». Знаходзіцца ён за 5 км ад Мінска і за 1 км ад чыгуначнай станцыі Ждановічы.

Прыгажосць навакольнага хваёва-бярозавага лесу сапраўды ўражвае.

Але ад прагулкі вакол гэтай «здраўніцы» валасы дыбарам устаюць.

**Юлія Сцяпанава, Ждановічы**



# Тупіковая валютная палітыка сучаснай Беларусі

Піша **Валер Цапкала**.

З чаго пачаўся імклівы ўзлёт шэрагу краін свету? Адбывалася гэта прыкладна так.

Два лідары Ірландыі — Фіцджэральд і Брутан — запрасілі да сябе кіраўнікоў пяці-шасці найбольш паспяховых ірландскіх кампаній. І спыталіся: што мы павінны зрабіць, каб вы маглі паспяхова развівацца?

Прыкладна ў гэты ж час з найлепшымі фінскімі кампаніямі такі ж дыялог пачалі весці Маўна Койвіста і Хары Халкеры (я ў той час працаваў у амбасадзе СССР у Фінляндыі і на свае вочы бачыў, у якой найцяжэйшай эканамічнай абстаноўцы знаходзілася гэтая краіна, якая страціла пасля развалу СССР гарантаваны міждзяржаўнымі пагадненнямі савецкі рынак).

Так ужо выйшла, што ірландскія кампаніі зрабілі асноўны ўпор на зніжэнне падаткаў для бізнэсу, а фінскія — на змяненне сістэмы адукацыі, якая ў адпаведнасці з пажаданнямі фінскіх бізнэсоўцаў пачала пераходзіць ад чыста тэарэтычнай, абстрактнай адукацыі да практычнай, арыентаванай на патрэбы бізнэсу.

Дзякуючы гэтаму, дзвюм краінам усяго за 15–20 гадоў удалося вырвацца ў еўрапейскія і сусветныя лідары.

Узяць кампанію Nokia, якая, у той час як я там працаваў, займалася вытворчасцю вырабаў з гумы і толькі пачынала эксперыментаваць з мабільнымі тэрміналамі. У той час група даследчыкаў у галіне мабільнай тэлефаніі ў гэтай кампаніі ледзь налічвала 80–90 чалавек.

Тым не менш, урад падтрымаў кампанію — прыватную (!) — нечуваная для нас справа — і фінансава, і кадрамі. У выніку гэтая кампанія генеруе сёння прыбытак, супастаўны з бюджэтам Беларусі.

Сінгапуру было складаней.

Лі Куан Ю — лідар Сінгапура — паказаў прыклад: ён пачаў ездзіць па свеце. Паедзе ў Нямеччыну, збярэ пару кіраўнікоў кампаній — тыпу Bosch або Siemens — і ставіць пытанне рубам: што павінен зрабіць я ў сваёй краіне, каб вы прыйшлі і стварылі ў маім горадзе-дзяржаве свае вытворчасці?

Яны яму кажуць: нам патрэбная дысцыплінаваная, акуратная і эфектыўная рабочая сіла. Ён вяртаецца да сябе на радзіму і арганізоўвае спецыяльныя курсы па павышэнні дысцыпліны працы. Заадно і адкрывае па ўсёй краіне курсы навучання англійскай мове, каб працоўныя маглі камунікаваць з замежнікамі. Так, паступова, ён зацягнуў да сябе практычна ўсе вядучыя сусветныя карпарацыі, якія стварылі там зборачныя вытворчасці.



**Валер Цапкала**

нар. у 1965 у Гродне. У мінулым — намеснік міністра замежных спраў ва ўрадзе Лукашэнкі. Цяпер — дырэктар беларускага Парку высокіх тэхналогій у Мінску. Кандыдат юрыдычных навук.

Нізкая зарплата блакуе ўкараненне сучаснай тэхнікі і тэхналогій (так, гарадскім уладам танней утрымліваць маладых здаровых мужчын, якія збіраюць грошы на паркоўках з уладальнікаў аўтамабіляў, чым укараніць сістэму «мітэраў» — электронных плацяжоў).

Чаму я пра гэта ўспомніў? Справа ў тым, што валютная палітыка, якую сёння праводзіць наш Нацыянальны банк, акцыцяўляецца з дакладнасцю да наадварот. Гэтая палітыка скіраваная не на падтрымку экспарцёра, а наадварот, на пазбаўленне яго заробленых грошай і іх пераразмеркаванне на карысць найменш эфектыўных прадпрыемстваў.

Гэтая палітыка скіраваная на тое, каб у нашай краіне ніколі не з'явілася кампаній тыпу Apple.

Абавязковы продаж валюты, атрыманай ад экспарту, пры множнасці курсаў не толькі падсякае эканоміку асобных прадпрыемстваў, але і эканоміку краіны ў цэлым.

А цяперашняя палітыка Нацбанка спрыяе толькі таму, каб даць магчымасць некаторым супрацоўнікам банкаўскай сферы за кароткі перыяд часу збіць прыстойныя капіталы. У першую чаргу сур'ёзна могуць узбагаціцца тыя, хто мае права прымаць рашэнне аб продажы валюты.

**Паводле tsepkalo.livejournal.com, скарочана**

**Для даведкі**

Рынкавая капіталізацыя кампаніі Apple складае 307 мільярдаў даляраў. Выручка кампаніі за 2010 склала 76,3 мільярда (у тры разы больш за ВНП Беларусі), а прыбытак — 25, 7 млрд.

## З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

### На парад людзей зганялі

**Сёння ў Віцебску на парад выйшлі людзі, якіх прымусілі туды пайсці.** Напярэдадні аднаго з маіх сваякоў, работніка Віцебскай чыгункі прымусова пагналі на парад... Я думаю, што па ўсёй краіне знойдуцца сотні такіх.

**Юрый К., Віцебск.**

### «Прэжде чэм фатаграфіраваць, нужна была спрасіць у меня»

**Сёння ехаў праз вёску Вянюціна Докшыцкага раёна ды пабачыў, як там закопваюць падмуркі разбураных хат.** Тэма актуальная, бо ілюструе заняпад і выміранне вялікай колькасці сельскіх паселішчаў па ўсёй Беларусі. Спыняюся, фатаграфую ды вырашаю напісаць матэрыял для сайта Westki.info і незалежнай газеты «Вольнае Глыбокае».

Тэлефаную ў Сітцаўскі сельсавет, каб даведацца, колькі чалавек жыве ў Вянюціне. Слухаўку здымае жанчына. Верагодна, старшыня. Прадстаўляюся, задаю пытанне.

«А почему вы не спросілі ў меня, прэжде чэм фатаграфіраваць?»

Ад нечаканасці не ведаю, што адказаць. Чаму я павінен пытацца ў гэтай жанчыны дазволу? Я, што, яе падворак сфатаграфаваў?

«Прэжде, чэм фатаграфіраваць, нужна была спрасіць у меня. Разгаварываць с вамі я не буду».

Сельсавет — вотчына старшыні? Колькасць насельніцтва вёскі — дзяржаўная таямніца?

**Кастусь Шыталь, Глыбокае**

### Маем — не шануем, а страцім — плачам

**Увесь час мне шанцавала на настаўнікаў гісторыі, і навучанне ў БДСГА не стала выключэннем.** А.І.Каданчык — адзін з найлепшых настаўнікаў, што ў мяне былі. Аднойчы, расказваючы нам на лекцыі аб людскіх стратах на войнах, што праходзілі на тэрыторыі нашай краіны, ён прывёў цікавы прыклад, які запомніўся мне на ўсё жыццё.

У нейкім навучальным цэнтры праводзілі цікавы дослед над мышамі. Паставілі два акварыумы і паміж імі зрабілі невялікі праход, па нізе якога ішоў ток, але бегчы па ім мышы маглі. Кожны дзень ім давалі ежу, а аднойчы ежы не стала — яе паклалі ў іншы акварыум. Мышам толькі заставалася перабегчы і далей сабе спакойна жыць. І вось адна паспрабавала, але не пабегла. Праз некаторы час яна зрабіла больш упэўненыя крокі і апынулася ў новым акварыуме, дзе было шмат ежы. За ёй пабеглі іншыя. Потым гэтую мыш ізалявалі і ежу паклалі ў першае мышынае памяшканне. Тая мыш, якая пабегла другой, ужо была першая. Гэты дослед паўтаралі некалькі разоў. У выніку апошнія мышы проста памерлі, таму што не засталося той, якая сваім прыкладам павяла б іх за сабой.

«Нешта падобнае, на маю думку, адбываецца ў нашай краіне і цяпер…» — сказаў настаўнік і праз некаторы час працягнуў лекцыю.

І сапраўды, многія людзі вінавацяць апазіцыю ў тым, што яна нічога не можа дабіцца. Праз два-тры гады, пасля таго як некаторыя да яе далучыліся, яны расчароўваюцца ў тым, што не бачаць ніякіх перамен. Я ж лічу, што мы павінныя шанаваць тых, хто яшчэ спрабуе весці за сабой. Можа, яны і не апраўдаюць нашых чаканняў, але яны тыя «мышкі», якія могуць павесці за сабой, і робяць гэта, нягледзячы на ўсе цяжкасці. Менавіта таму мы павінныя іх трымацца і як мага больш дапамагаць ім у іх нялёгкіх «першых кроках па гэтым току». Шануйце мышак-лідараў, каб мы не «памерлі» і нас проста не з'елі пацукі…

**Алесь Страчук**

### Блізка да сэрца

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Нашай Нівы»! Па-першае, віншую з Днём Перамогі!**

Даўно з'яўляюся вашым чытачом, бо шмат чаго ў вашых матэрыялах мне блізка да сэрца.

Сам я не з'яўляюся «правільным» у справе беларускасці, бо зрэдку размаўляю. Але, калі я чытаю ў вашым выданні такія рэчы кшталту «ёсць вопыт часоў Андропава», хочацца кудысь схавацца. Справа ў тым, што вопыт — гэта хімічны вопыт; а «вопыт» у вашым сэнсе — гэта досвед ці практыка. Ёсць шмат адпаведнікаў, на якія проста з цягам часу забыліся.

Жадаю поспехаў! Жыве Беларусь!

**Павал, Мінск**

**Ад Рэдактара.** Дзякуй, Павал, і за такую ўвагу да мовы. Сапраўды, на нас ляжыць місія захаваць дух і багацце нашай нацыянальнай мовы.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Skype: nashaniva**

## ГУМАРЭСКА

### Перавыхаванне

Неяк прыходжу з працы дадому ... і што я бачу? Наша кошка з'ела мяса нашага сабакі. Выгнаў кошку. Раптам заўважаю, што сабака з'еў катлету жонкі. Выгнаў і сабаку. Затым бачу, што жонка з'ела мой суп. Выганяю з дому і жонку. І тут да мяне дайшло, што тое малако, якое я выпіў раніцай, было пакінута для кошкі. Я ўсім загадаў вярнуцца ў хату, а сам пайшоў у свет. Так, я надта строгі гаспадар, але ж, заўважым, справядлівы.

**Канстанцін Карнялюк**

Нагадаем, што ў рубрыцы «Меркаванні» публікуюцца артыкулы, якія могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.

# Хакей: прайгралі разносчыкам піцы

Заслужана!

У славацкіх Браціславе і Кошыцах працягваецца чэмпіянат свету па хакеі. Але для беларусаў першынство скончылася. Ледзьве не поўным фіяска.

Пройгрыш ад канадцаў у першай гульні быў чаканы. Усё ж процістаялі пачынальнікам хакея. Камандзе, складзенай з гульцоў НХЛ. На афіцыйным узроўні беларусы ў «кляновых лістоў» яшчэ не выйгравалі ніколі.

Затым была зборная Швейцарыі. У сусветным хакеі існуе вялікая «шасцёрка» каманд: Канада, Расія, Чэхія, Швецыя, Фінляндыя, ЗША. А шэраг зборных спрабуе ўклініцца ў гэта цеснае кола. Дык вось, Швейцарыя стаіць найбліжэй да грандаў. Па гульнях з гэтай альпійскай зборнай мы мералі свае хакейнае майстэрства.

На жаль, сёлета ўсё было без варыянтаў. Швейцарцы ад пачатку гульні валодалі ініцыятывай і заслужана дабіліся перамогі. Цікава, што супернікаў узначальвае Шон Сімпсан. Некалі ён дапамагаў Глену Хэнлану трэніраваць зборную Беларусі.

Ну і апафеозам нашай бездапаможнасці ў Славакіі стала гульня з Францыяй. Цікава, колькі чалавек у Францыі падазрае, што дзесьці ў Кошыцах іхняя зборная гуляла на чэмпіянаце свету? У Францыі хакей аматарскі. Адзін з нямногіх вядомых французскіх хакеістаў, брамнік Крыстабаль Юэ (ён пагуляў у НХЛ), казаў, што ягоным партнёрам па камандзе даводзіцца працаваць па-за хакеем, каб пракарміць сям'ю.

І тым не менш, паўпрафесіяналам з Францыі нашы саступілі. Прычым, абсалютна заслужана. Беларусы былі безабаронныя, як ніколі.

Пройгрыш у той сустрэчы адкінуў нашых у чвартэт няўдачнікаў, якія змагаліся за месца ў элітным дывізіёне налета. На шчасце, апынуліся там каманды Аўстрыі і Славеніі — яшчэ слабейшыя за беларускую. Гэта дазволіла камандзе заняць апошняе, выратавальнае 14-е месца.



Трэнер беларускай зборнай Эдуард Занкавец ацаніў гульню каманды на «двойку з плюсам». Цікава, што заўважны прагрэс затое назіраецца ў зборных, што раней не хапалі зорак з неба, — Германіі, Нарвегіі, Даніі. Яшчэ дзесяць гадоў таму датчане былі аўтсайдарамі нават у першым дывізіёне. Аднак два апошнія гады запар яны займаюць месцы, вышэйшыя за беларусаў.

І гэта пры тых укладаннях, што робіць беларуская дзяржава ў хакей. Затратны праект удзелу беларускай каманды ў Кантынентальнай хакейнай лізе паставіў фактычны крыж на ўнутраным першынстве, інтарэс да якога імкліва падае. Тым часам у КХЛаўскім «Дынама» вядучыя ролі іграюць не беларусы, а легіянеры.

Зорных НХЛаўцаў Грабоўскага і Касціцына замала для высокіх здзяйсненняў беларускага хакея. Яшчэ раней французам і датчанам прайграла юніёрская зборная. Вось і выглядае, што сённяшняе месца беларускіх хакеістаў абсалютна заслужанае.

**Зміцер Панкавец**

**Уладзімір Беражкоў: У хакеі мы ідыёты**

Рэдактар газеты «Прессбол», былы віцэ-прэзідэнт Беларускай федэрацыі хакея Уладзімір Беражкоў бязлітасны.

У Францыі хакеісты падпрацоўваюць разносчыкамі піцы, цырульнікамі, будаўнікамі. І яны нас перамагаюць. Вось яна, эфектыўнасць беларускага хакея.

База, якая ёсць сёння, проста фантастычная, касмічная, у параўнанні з базай дзесяцігадовай даўніны. І, улічваючы ўсе гэтыя сродкі, якія мы ўклалі ў хакей, я б сказаў, што мы — ідыёты. Мы сёння ў хакеі — сапраўдныя ідыёты. З такімі ўнёскамі мець такі вынік могуць толькі недалёкія людзі.

Беларускі хакей ператварыўся ў дарагую цацку для дарослых, якія мала думаюць пра дзяцей.

ІНШЫ СВЕТ

## Associated Press дабіваецца ад адміністрацыі Абамы фота забітага бен Ладэна

Уявім: «НН» запатрабавала ад КДБ фота- і відэаматэрыялаў.

Інфармацыйнае агенцтва Associated Press патрабуе ў судзе ад Адміністрацыі прэзідэнта ЗША публікацыі фота забітага Усамы бен Ладэна.

Амерыканскія СМІ маюць права патрабаваць ад выканаўчай улады публікацыі урадавай дакументацыі ў адпаведнасці з Актам аб свабодзе інфармацыі (Freedom of Information Act).

Акрамя фатаграфій з забітым лідарам «Аль-Каіды», АР таксама патрабуе ад Белага дома апублікаваць відэа, якое рабілі марскія пехацінцы падчас аперацыі па ліквідацыі бен Ладэна. Агенцтва хоча атрымаць ад адміністрацыі Абамы яшчэ і відэазапіс, як цела «тэрарыста №1» скідаюць у мора.

Белы дом абавязаны адказаць на запыт АР на працягу 20 дзён.

Раней прэзідэнт ЗША Барак Абама ў інтэрв'ю тэлекампаніі CBS заявіў, што прыняў рашэнне не публікаваць фатаграфіі з забітым бен Ладэнам. Паводле яго слоў, улады ЗША разглядалі такую магчымасць, але з-за жорсткасці фота вырашылі адмовіцца ад публікацыі.

Так функцыянуюць прынцыпы свабоды слова ў дэмакратычных краінах: грамадства праз СМІ можа патрабаваць ад улады справаздачы. У пераносе на беларускую сітуацыю гэта выглядала б, нібыта «Наша Ніва» запатрабавала ад Адміністрацыі прэзідэнта ці КДБ фота- і відэаматэрыялаў.

У нас усё наадварот. Нядаўна Лукашэнка агучыў сваё бачанне свабоды слова: «чалавек, адпрацаваўшы свой рабочы час, мае права ў пэўных месцах, дома, як у сапраўднай дэмакратычнай дзяржаве, выказваць свой пункт гледжання». У пэўных месцах, дома... Відаць, на кухні. А ў спальні — ужо ані.

**Сяргей Мікулевіч**

## Пуцін стварае «народны фронт»

Расійскія ўлады спрабуюць узняць свой рэйтынг.

Прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін, выступаючы на канферэнцыі партыі «Адзіная Расія», прапанаваў стварыць «агульнаграмадзянскі фронт на адзінай палітычнай платформе», куды ўвойдуць прадстаўнікі палітычных партый, прафсаюзаў, моладзевых арганізацый. Такім чынам ён хоча ўліць свежую кроў у партыю ўлады.

Пра гатоўнасць далучыцца да «народнага фронту» адразу заявілі Саюз жанчын Расіі і прафсаюзы. Сапраўдная апазіцыя паставілася да ідэі Пуціна крытычна. Вельмі ж яна нагадвае савецкі «блок камуністаў і беспартыйных» у СССР.

«Народныя франты» ў Еўропе і былым СССР утвараліся тады, калі ставіла задача абароны ці здабыцця дэмакратыі або незалежнасці.

**СМ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Самотнае крэсла ў метро «Інстытут культуры»

Адной з мераў прадухілення магчымых тэрактаў у мінскім метро было тое, што на станцыях папрымалі з платформаў лаўкі. На станцыі «Інстытут культуры» пакінулі толькі самотнае крэсла. Для каго? Як аказалася — для работніцы канцавой станцыі, якая сустракае цягнікі і правярае, ці не заснуў хто ў вагонах, што кіруюцца ў дэпо.

## Рыгор Барадулін трапіў у рэанімацыю

«Кажуць, гэта ўсё ад хваробы Паркінсана ў цяжкай форме», — кажа Валянціна Барадуліна.



Пакуль увага беларусаў была прыкутая да трагедыі 11 красавіка, незаўважанай прайшла іншая вялікая непрыемнасць — трапіў у рэанімацыю народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Дзядзька Рыгор лёг у шпіталь на чарговае абследаванне, але раптам стаў адчуваць сябе горш — і ў выніку яго перавялі ў рэанімацыю.

«У яго было, як кажуць, «планавае ляжанне» ў неўралогіі. Але там высветлілася, што і запаленне лёгкіх, — распавяла жонка паэта Валянціна Барадуліна. — Яго перавялі ў рэанімацыю, таму што там ёсць неабходнае абсталяванне для вентыляцыі лёгкіх. І ў яго не падае тэмпература — 37,1 — 37,4 градуса. Здаецца, і невялікая, але вельмі непрыемная... Узнімалася і да 38... Ён там быў да таго часу, пакуль лекары не сказалі, што лёгкія чыстыя...»

Дактары, кажа Валянціна Міхайлаўна, не могуць сказаць адназначна, ад чаго ў народнага паэта трымаецца тэмпература. «Кажуць, гэта ўсё ад хваробы Паркінсана ў цяжкай форме», — кажа Валянціна Барадуліна.

Рыгору Барадуліну прызначылі новыя лекі — і як мінімум у бліжэйшыя два тыдні гаворка пра выпіску не ідзе. За апошнія гады гэта ўжо не першы раз, калі паэт аказваецца ў рэанімацыі. «Ён піша нават у рэанімацыі! Калі б ён перастаў хацець і магчы пісаць — ён бы ўжо загнуўся даўно...» — упэўненая жонка паэта.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# Гісторыя Беларусі. Частка XVII.
# Святы Бруна і адкрыццё Літвы

Піша **Алег Дзярновіч**.

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год. № 6, 8, 11.**

Візантыйскі хрост Кіева, актыўнасць у гэтым кірунку князя Уладзіміра і полацкая місія Торвальда Вандроўніка не былі адзінымі сюжэтамі ў справе хрысціянізацыі земляў Беларусі. На паўночным захадзе краю, яшчэ дзікім, адбываліся падзеі, што перадвызначаць далейшы лёс гэтых тэрыторый, а часткова і ўсёй краіны. Размова пойдзе аб прускай выправе, здзейсненай у пачатку X ст. хрысціянскім місіянерам Бруна з Кверфурта.

## Школа місіянераў

Бруна паходзіў з саксонскага арыстакратычнага роду ды нарадзіўся, як лічыцца, у 974 г. у сям'і графа Кверфурцкага Бруна Старэйшага. Выхоўваўся ж малады саксонец у знакамітай школе пры кляштары Св. Яна ў Магдэбургу.

Саксы яшчэ ў IX ст. лічыліся дзікунамі сярод іншых германскіх народаў. Толькі ў канцы VIII ст. іх так-сяк, фармальна і гвалтоўна, ахрысціў Карл Вялікі. Але ў адданасці саксаў новай веры зусім не былі пэўныя франкскія і англасаксонскія місіянеры, што надалей скіроўваліся ў гэты лясны край.

А ўжо ў X ст. як неафіты і лепш абазнаныя ў Еўрапейскім Усходзе саксы выпраменьвалі пасіянарнасць і былі гатовыя ісці на рызыкоўныя місіі сярод паганскіх балтыйскіх і славянскіх народаў.

У школе, у якой навучаўся Бруна, раней навуку праходзіў Св. Адальберт Войцех Пражскі. Гэты чэшскі місіянер у 997 г. загіне ад рук балтаў, якіх спрабаваў навярнуць у хрысціянства.

## Па шляху да Усходу Еўропы

Пасля навучання Бруна распачаў святарскі шлях. У 995 г. ён атрымаў сан каноніка (чалец рады пры біскупскай кафедры), а ў 997 г. стаў капеланам імператара Атона III, у свіце якога ў 998 г. ён і прыбыў у Рым. Менавіта там Бруна даведаўся пра пакутніцкую смерць Адальберта. Навіна ўзрушыла Бруна, ён абраў шлях аскетызму — пакінуў імператарскі двор, прыняў манаства і новае імя Баніфацый.

Спачатку Бруна-Баніфацый уступіў у Ордэн бенедыктынаў — найстарэйшы каталіцкі манаскі ордэн. У знакамітым кляштары ў Монтэ-Касіна ён пазнаёміўся з Рамуальдам — заснавальнікам новага радыкальнага брацтва манахаў-аскетаў, якія, урэшце, вылучыліся з бенедыктынаў ды ўтварылі Ордэн камедулаў. І менавіта з Рамуальдам падтрымліваў кантакты польскі князь Баляслаў І Храбры ды запрашаў яго братоў для хрысціянізацыі балтыйскіх славян.

## Місійна-дыпламатычная актыўнасць

У 1002 г. Папа Сільвестр II надаў захопленаму місіянерскімі ідэямі Бруна тытул archiepiscopus gentium — арцыбіскуп плямёнаў, гэта значыць — язычнікаў. У Бруна не было канкрэтнай дыяцэзіі, ён мусіў стварыць яе сам сярод навернутых у хрысціянства народаў.

Бруна быў уцягнуты ў замежнапалітычныя планы польскага князя. Ён хрысціў славянаў між Лабай і Одрай, пасля, таксама з ініцыятывы Баляслава, скіраваўся ў Венгрыю, да «чорных мадзьяраў» — венграў, якія заставаліся паганцамі. Іх князь Айтань быў у канфлікце з вугорскім каралём Стэфанам І і падтрымліваў сувязі з кіеўскім князем Уладзімірам.

Прысутнасць Бруна ў Венгрыі выклікала раздражненне караля Стэфана. У выніку нямецкі біскуп быў змушаны вярнуцца да двара Баляслава. Але ўжо ў 1007 г. Бруна накіроўваецца на Русь.

## Выправа да печанегаў

Афіцыйнай мэтаю выправы была місія сярод печанегаў — саюза цюркскіх плямён, які склаўся ў VIII—IX стст. у Вялікім Стэпе і рэгулярна ўрываўся на Русь.

У пачатку 1008 г. Бруна сустрэўся з князем Уладзімірам і нейкі час жыў пры ягоным двары. Пазней Бруна створыць некалькі тэкстаў, дзе распавядзе пра абставіны той выправы. Ёсць там і адзінае прыжыццёвае апісанне князя Уладзіміра.

Бруна піша, што «ўладар Русі, вялікі сваёю дзяржаваю і багаццямі, на працягу месяца ўтрымліваў мяне насуперак маёй волі, быццам я па ўласным жаданні хацеў загубіць сябе, і пастаянна пераконваў мяне не хадзіць да нагэтулькі шалёнага народа, дзе, паводле ягоных словаў, я не прыдбаў бы новых душ, але адну толькі смерць, ды і тое найганебнейшую. Калі ж ён не ў сілах быў [больш утрымліваць мяне]..., то з дружынаю два дні суправаджаў мяне да крайніх рубяжоў сваёй дзяржавы, якую, з прычыны пастаяннай варожасці з качэўнікамі, з усіх бакоў абгарадзіў наймацнейшым і высокім частаколам. Саскочыўшы з каня на зямлю, ён пайшоў за мной, [калі] я ішоў наперад з таварышамі, і разам са сваімі баярамі выйшаў за браму. Ён стаяў на адным пагорку, мы — на іншым. Абняўшы крыж, што нёс у руках, я абвясціў: «Пётра, ці любіш мяне? Пасі агнцаў маіх!»




**Смерць св. Бруна. Фрэска з кляштара Святога Крыжа на Лысай гары ў Польшчы. Невядомы аўтар.**

Звяртаючыся да апостала Пятра, Бруна выканаў першы дакументальна зафіксаваны на Русі грыгарыянскі харал. Князь жа Уладзімір выглядае ў апісаннях Бруна ваяром, які лёгка саскоквае з каня, скандынаўскім конунгам, які ахоўвае свае ўладанні ад апраметнага свету, што ляжыць па-за межамі ягонага краю. Апроч таго, Бруна піша пра візіянерскі дар Уладзіміра.

Князь даслаў да Бруна і ягоных спадарожнікаў аднаго са сваіх баяраў са словамі: «Я правёў цябе да месца, дзе сканчаецца мая зямля і пачынаецца варожая; імем Госпада прашу цябе, не губі да маёй ганьбы свайго маладога жыцця, бо ведаю, заўтра да трэцяй гадзіны наканавана табе без карысці, без віны адчуць горыч смерці».

Прадбачанне Уладзіміра апраўдалася часткова. Місія Бруна сапраўды была схопленая паганцамі ды катаваная. Усё ж біскупу-саксонцу ўдалося здабыць давер аднаго з правадыроў качэўнікаў. Больш таго, Бруна ахрысціў каля трыццаці печанегаў ды паставіў ім біскупа.

Далейшы лёс гэтага біскупства невядомы і, хутчэй за ўсё, гэта быў толькі эпізод у спробе ўсталявання еўрапейскага ўплыву над прычарнаморскімі качэўнікамі. Але ж у 1008 г. Бруна вырашыў яшчэ адну задачу — усталяваў мір кіеўскага князя з печанегамі. Гэта сведчыць пра тое, што на працягу сваёй дзейнасці функцыі місіянера Бруна спалучаў з дыпламатычнымі. Прытым найчасцей ён падтрымліваў інтарэсы Польшчы.

## След Турава

Як піша тагачасны нямецкі храніст Тытмар Мерзебургскі (975—1018), у 1009 ці 1010 г. адбыўся шлюб сына Уладзіміра, Святаполка Тураўскага, і невядомай нам паводле імя дачкі польскага князя Баляслава Храбрага. Верагодна, што заключэнне дынастычнага шлюбу і было адной з задачаў выправы Бруна на Русь.

Гэты шлюб, уцягванне Баляслава ва ўнутрырускія справы на баку свайго зяця Святаполка ды прысутнасць у Тураве лацінскага духавенства будуць мець вялікае значэнне для гісторыі Турава і Кіева. Але на гэтым сюжэце варта спыніцца асобна. Зараз жа ўжо неабходна вярнуцца да смяротнага прароцтва князя Уладзіміра.

## Апошняя місія

Пасля паспяховай выправы на Русь Бруна вярнуўся на двор Баляслава. Саксонскі біскуп ускладаў на гэтага амбітнага ўладара вялікія надзеі ў хрысціянізацыі апошніх паганцаў Еўропы — балтаў ды паморскіх славянаў. Баляслаў таксама адчуў у апантаным місіянеры і адначасова разважным дыпламаце Бруна вялікі патэнцыял для рэалізацыі дзяржаўных планаў. Баляслаў скіраваў Бруна на тэрыторыі, што ляжалі на паўночным захадзе ад Польшчы — да балтаў-паганцаў.

Увосень 1008 г. ён разам з васямнаццацю спадарожнікамі выехаў у кірунку Прусіі. Як толькі яны ўвайшлі ў прускія пушчы, былі схопленыя і прыведзеныя да мясцовага ўладара Нецімера. Далейшыя падзеі мы ведаем толькі з паданняў. Адбыўся рэлігійны дыспут, падчас якога Бруна кінуў у вогнішча паганскага ідала. За гэта сам быў асуджаны на спаленне. Аднак раскласці агонь пад Бруна не ўдалося, і прусы палічылі гэта боскім знакам.

Нецімер і 30 яго набліжаных, верагодна, дружына, прынялі хрысціянства. Але гэта стварыла новы полюс супярэчнасці ў прускім грамадстве. Таму ў далейшым місія Бруна склалася няўдала. Ён накіраваўся далей і апынуўся ва ўладаннях іншага прускага лідара — Забедэна (Жэбедзіса). Там 9 сакавіка 1009 г. Бруна быў схоплены і, на загад князька, яму адсеклі галаву, а 17 з ягоных 18 спадарожнікаў павесілі. Галаву Бруна кінулі ў раку. У вельмі позніх крыніцах раку завуць Алстрай (*Alstros), і некаторыя даследчыкі атаясамліваюць яе з ракой Ятра (цяпер Ятранка), прытокам Моўчадзі. Хоць слушнасць зафіксаванай назвы ракі і яе атаясамленне з Ятрай зусім невідавочныя, але ў Дарэўскай парафіі Баранавіцкага дэканата Пінскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі лічаць, што Бруна загінуў у іх мясцовасці.

Як бы там ні было, але «Кведлінбургскія аналы» — сусветная хроніка, складзеная каля 1025 г. у Кведлінбургскім абацтве ў Саксоніі, — коратка паведамляюць, што «Святы Бруна, які называўся Баніфацыем, арцыбіскуп і манах, быў абезгалоўлены на мяжы Русі і Літвы ў 11-ы год сваёй падзвіжніцкай дзейнасці разам з 18 спадарожнікамі, і 9 сакавіка ўзнёсся на неба».

> Недзе каля сучаснага Навагрудка язычнікі адсеклі галаву святому Бруна і кінулі яе ў рэчку Ятранка.

Сёння верагоднае месца гібелі Бруна даследчыкі размяшчаюць на яцвяжскіх тэрыторыях паўночней лініі Ваўкавыск — Навагрудак. І гэты год — 1009 г. — сапраўды ёсць першай прыгадкай назвы «Літва» ў пісьмовых крыніцах.

Атрымаўшы весткі пра пакутніцкую смерць Бруна, увосень 1010 г. Баляслаў Храбры здзейсніў карную экспедыцыю на прускія землі. Далейшыя ж звесткі супярэчлівыя. Адны крыніцы сцвярджаюць, што парэшткі Бруна і яго спадарожнікаў былі выкупленыя нейкім рускім князем, магчыма Святаполкам Тураўскім, які над імі пабудаваў царкву. Іншыя — што парэшткі выкупіў польскі кароль Баляслаў. Вельмі хутка, да 13 ліпеня 1024 г., Бруна быў кананізаваны.

Як бачым, у сюжэце з прускай місіяй Бруна сышліся інтарэсы Польшчы і Русі, а таксама быў гучна заяўлены балцкі голас. Хто з іх пераможа ў будучыні?

**Пра загадкі тураўскай гісторыі чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».**


MIX.
Subita ex nostris operibus insolita aquarum refusio facta est,
III. Id: Ianuarij, feria secunda, Luna X. multis damnum
inferens, VII. diebus in sua rabie persistit. Obijt Recharius
Patherbrunensis episcopus Cui successit Mettinwerck. Sanc
tus Bruno qui cognominatur Bonifacius archiepiscopus et
monachus XI. suae conversionis anno in confinio Rusciae
et Lituae à paganis capite plexus cum suis XVIII,
VII. Id: Martij petijt coelos. Obijt Vuigbertus Merseburgen
sis episcopus: Cui successit Thiatmarus. Sed et domi
nica die palmarum guttae sanguinis in quibusdam locis
vestimentis hominum instillabant. Sed nebula horribili
ex colore stupendo mutatus, mirantibus intuentium

**Фрагмент рукапісу «Кведлінбургскіх аналаў» з першай прыгадкай Літвы пад 1009 г.**

# «Брабус» падвёў?

Дзяўчына засталася жывая пасля падзення ў аўто з пятага паверха. Версія здарэння — няспраўныя тармазы ў «Мерсэдэса-Брабуса».

«Мерсэдэс-Брабус» зваліўся з паркінга ў Мінску на вуліцы Куйбышава 5 мая. Машына праляцела тры паверхі і ўпала на дах гандлёвага цэнтра.

31-гадовую Вольгу, якая была за рулём, шпіталізавалі з траўмай галавы і пераломам сківа̀цы. Супрацоўнікі ДАІ гэты выпадак афармілі як ДТЗ. Цяпер яны чакаюць выпіскі жанчыны з бальніцы для расследавання.

Пакуль невядомыя прычыны здарэння. Як адзначаюць знаёмыя Вольгі, што ўжо бачыліся з ёй, жанчына ў той дзень прыпаркавалася і заглушыла рухавік. Але машына пакацілася ўперад. Не стрымалі яе нізкі бардзюр і слабыя металічныя агароджы.

Нядаўна кампанія Mercedes адклікала некалькі тысяч мадэляў класа ML у сувязі з непаладкамі. У прыватнасці, часта не працаваў круіз-кантроль і тармазная сістэма: пры выцісканні педалі тормазу машына працягвала рухацца.

Стаж кіравання Вольгі аўто — 13 гадоў. Яна нідзе не працавала. «Мерсэдэсу», якім яна кіравала, было восем гадоў. Нумарны знак аўтамабіля знаходзіўся ў планцы з надпісам «МУС Беларусі».

КМ

**Mercedes ML-klasse**

На аўтарынку «Малінаўка» Mercedes ML-klasse 2003 года з аб'ёмам рухавіка 40000 см куб. з аўтаматычнай трансмісіяй каштуе ад 18600 даляраў.





# Самыя сэксуальныя жанчыны свету

24-гадовая акторка і мадэль Розі Хантынгтан-Уітлі стала першай у сотні самых сэксуальных дзяўчат штогадовага рэйтынгу мужчынскага часопіса FHM. У першую пяцёрку таксама трапілі Кэці Пэры, Рыяна, Мэган Фокс. Замыкае пяцёрку акторка Алівія Уайлд.

FHM

# У Мінску адменены канцэрт «ПражэктарПэрысХілтан»

«Яны свае ўжо аджартавалі».

Выступленне гумарыстаў з Расіі было запланаванае на 30 мая ў мінскім Палацы спорту. У лісце, які атрымалі арганізатары канцэрта ад адміністрацыі Палаца спорту, гаворыцца, што там будзе праводзіцца міжнародны турнір па баскетболе. Але гэта фармальная прычына, кажуць арганізатары: «Наколькі нам вядома, адменены канцэрт быў па загадзе зверху. Як нам было сказана: «Яны свае ўжо аджартавалі». Нам проста было сказана, што ў бліжэйшы час ніхто не дасць правесці іх канцэрт у Мінску».

Расійскія гумарысты з Першага канала разбіраюць публікацыі з газет і смяюцца з недарэчных навінаў. Іх жарты пра кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнку часцяком не праходзілі цэнзуру ў нашай краіне і выразаліся з перадач на АНТ.

Арганізатары канцэрта вяртаюць гледачам грошы за квіткі і выказваюць нясмелую надзею, што змогуць прывезці «Пражэктар» восенню. На канцэрце 30 мая гумарысты меліся «прааналізаваць» беларускія газеты і накпіцца з іх зместу.

**Віталь Несцераў**

**Жарты «Пражэктара» пра Лукашэнку**

Пражэктар: «Што будзе рабіць Лукашэнка ў Еўропе? Паедзе ў Дыснэйлэнд, каб здаць касцюм феі, дзякуючы якому ён выйграў апошнія выбары».

Лукашэнка: «Трэба ісці ў іншыя краіны, дзе нас не ведаюць, дзе нас чакаюць». Пражэктар: «Сапраўды, Аляксандр Рыгоравіч, там, дзе вас ведаюць, вас ужо не чакаюць...

Лукашэнка наведаў Арменію с сынам Колем. Пражэктар: «Крызіс — ашчаджае на нянцы. Вусаты нянь!»

Пра Лукашэнку ў Ватыкане. Пражэктар: «Усе Папы Рымскія на працягу 2000 гадоў імкнуліся да гэтага, а пашанцавала толькі Бенедыкту — менавіта ён сустрэўся з Богам».

Пра нафту ад Чавеса. «Існуе таемны нафтавы калідор — з Венесуэлы на пірогах індзейцы вязуць нафту ў Чылі. Там праз Кардыльеры на ламах, праз Ціхі акіян на дырыжаблях, даехалі да Бесарабіі, там цыганскі табар да Адэсы, а на цягніку «Адэса—Віцебск» два купэ загрузіць нафтай. Недарагі і хуткі спосаб».







СЯМЁН ПЕЧАНКА

# Дзяржсімволіка дагары нагамі

Колькасць дзяржаўных сцягоў, якія да майскіх святаў развесілі на вуліцах дагары нагамі, сёлета была надзвычайнай.

Толькі на плошчы Перамогі і прылеглых да яе вуліцах карэспандэнт «НН» зафіксаваў тры выпадкі няслушнага вывешвання дзяржаўнага сцяга. Бывала, як ля цырульні «Ясь і Яніна» па вуліцы Казлова, што вывешваліся два сцягі: адзін правільна, другі — не. Такі сабе плюралізм.

З бел-чырвона-белымі сцягамі такіх праблемаў не бывае.

**Сямён Печанко**

## Здарэнні сцісла

• **П'яны акрабат гадзіну скакаў на дахах машын.** 19-гадовы беспрацоўны мінчук, кандыдат у майстры спорту па акрабатыцы, вяртаўся з сяброўскай бясеbelowды. Праходзіў паўз аўтастаянку, дзе і вырашыў прадэманстраваць сябру акрабатычны майстар-клас. У выніку нецвярозых акрабатычных эцюдаў пашкоджанні на 8,5 млн рублёў атрымалі чатыры аўто. Акрабату пагражае да 3 гадоў пазбаўлення волі за хуліганства.

• **Пасля выбуху распачата 150 крымінальных спраў за незаконнае захоўванне зброі.** Пасля тэракта ў метро з незаконнага звароту канфіскавана звыш 2 тысяч адзінак зброі, больш за 20 кг выбуховых рэчываў. Узбуджана больш за 150 крымінальных спраў. У насельніцтва канфіскавана больш за 500 адзінак незаконнай зброі, каля 500 адзінак зброі, якая захоўвалася з парушэннем заканадаўства. Больш за тысячу адзінак насельніцтва здало добраахвотна. Большасць канфіскаванай зброі адносіцца да часоў вайны.

• **У цэнтры Жлобіна знайшлі гранату.** Выбуховую прыладу знайшоў у кантэйнеры для смецця дворнік. Паводле асноўнай версіі, гранату выкінуў у кантэйнер хтосьці з тых, хто незаконна яе захоўваў. Апошнім часам у баках для смецця часта знаходзяць патроны і іншыя боепрыпасы. Людзі ведаюць пра мерапрыемства «Арсенал» па выяўленні і канфіскацыі ў насельніцтва зброі і боепрыпасаў. Грамадзяне асцерагаюцца праблем, таму пазбаўляюцца такім чынам ад небяспечных прадметаў, лічаць у міліцыі.

• **3 гады за 5 [50] еўра: Пасадзілі ўчастковага тэрапеўта.** Суд Ленінскага раёна сталіцы прызнаў вінаватымі ў сукупнасці злачынстваў (хабарніцтва, падробка дакументаў, незаконны абарот псіхатропных рэчываў) участковага доктара-тэрапеўта адной са сталічных палiклінік і яе пацыента. 28-гадовы мінчук-наркаман звярнуўся з недвухсэнсоўнай просьбай палегчыць пакуты да ўчастковага доктара-тэрапеўта, якая выпісала яму рэцэпт на набыццё 40 таблетак трамадолу, атрымаўшы за паслугу 20 тысяч рублёў. Крыху папрацаваўшы з набытым рэцэптам, малады чалавек унёс змены ў графу з колькасцю таблетак — замест 40 штук у незаконным медыцынскім дакуменце з'явілася лічба 140. Прычым, як высветлілі следчыя Ленінскага РУУС, такія махінацыі доктар і пацыент паўтарылі дзесяць разоў. Суд кваліфікаваў дзеянні доктара як атрыманне хабару і дапамогу ў набыцці псіхатропных рэчываў і прысудзіў яе да трох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй. З улікам пажылога ўзросту падсуднай ёй была дадзеная адтэрміноўка на два гады.

• **Беларус хацеў правезці праз мяжу тузін галубоў.** Ён трымаў жывых птушак у кардонных скрынках. Кантрабандыста, што ехаў цягніком «Марыупаль—Мінск», затрымалі на пункце пропуску «Церахоўка» супрацоўнікі гомельскай мытні. Кошт птушак паводле папярэдняй ацэнкі склаў каля 2 млн рублёў.

СМ

# Сольны канцэрт Кулінковіча

18 мая ў рэстаране-клубе «Мулен Руж» (Кальварыйская, 1) — вялікі сольны канцэрт Аляксандра Кулінковіча. **Пачатак а 20-й.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




## КАНЦЭРТЫ

### Лявон Вольскі і кампанія

**12 і 13 мая ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** – Лявон Вольскі і кампанія. **Пачатак а 19-й.**

### Жывы тузін

**20 мая ў «Графіці»** — канцэрт «Жывы тузін», які арганізуе музычны партал «Тузін гітоў». Удзел бяруць: ветэраны панку з Гродна — гурт «КальЯн», а таксама гурт HandmadE, лідар якога — вядомы журналіст Яўген Валошын. Вядзе канцэрт Алег Хаменка.

### «Тройца», Арлоў, Разанаў — канцэрт памяці ахвяраў тэракта

**15 мая а 19-й у Loft-кафэ (вул.Броўкі, 22)** — дабрачынны канцэрт «Памяці ахвяраў тэракта ў мінскім метро 11 красавіка». Бяруць удзел The Outsides, этна-трыа «Тройца», Akana, Аляксандр Памідораў, пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў, Віталь Рыжкоў.

### «Нагуаль»

**19 мая ў «Графіці»** выступае псіхадэлічны гурт «Нагуаль». **Пачатак а 19-й.**

### «Мутнае вока»

**12 мая ў «Рэактары» ( вул.Харужай, 29б)** выступае гурт «Мутнае вока». **Пачатак а 19-й.**

### Hard Life/Heavy Music

**13 мая ў «Рэактары»** — метал-шоу Hard Life/Heavy Music. **А 17-й — уваход, у 17.30 — пачатак.** Бяруць удзел Znich, Nightside Glance, Imprudence, Soulsides, Partyzone, Thelema.

### «Князь Мышкін»

**24 мая у «Лісінай нары» (вул.Каліноўскага, 32)** — святкаванне 20-годдзя гурта «Князь Мышкін». Бяруць удзел: Маша Яр, Ірэна Катвіцкая, Roomdark, Юры Паўлоўскі, Яўген Хітрак, Віктар Жыбуль і Вера Бурлак, Іна Перасецкая-Малаковіч, «Балцкі субстрат», «Інфрачырвоны выдых», Zartipo. **Пачатак а 19-й.**

### Блюз у «Лісінай нары»

**12 мая ў «Лісінай нары»**– канцэрт блюзавага трыа The Little Blues Band. У ім грае Іван Маркаў гітарыст «Бонды», аднаго з першых беларускіх рок-гуртоў. **Пачатак а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Дударскі фэст-2011

**12 мая — канцэрт у Палацы ветэранаў (вул.Купалы, 21)**: Essa (Беларусь), «Стары Ольса» (Беларусь), Litvintroll (Беларусь). **Пачатак у 19.00.**

**13 мая — сольны канцэрт Hedningarna** (Швецыя) у Палацы ветэранаў. **Пачатак у 19.00.**

**15 мая — канцэрт у клубе «Рэактар»**: Fidelius (Германія), «Стары Ольса» (Беларусь), Litvintroll (Беларусь), «Кашлаты Box» (Беларусь), Testamentum terrae (Беларусь). Спецыяльны госць — Open Folk (Польшча). Конкурс імправізацый з DJ Паўлам Балцэвічам. **Пачатак у 18.00.**

### Танцы

**Шточацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

### Балцкі субстрат

**15 мая а 19-й у «Лісінай нары»** — «Балцкі субстрат». Бяруць удзел: Drummateria, Раман Яраш, «Князь Мышкін», Таццяна Мархель, Aiga Sprindža (Рыга, Латвія), а таксама сольная праграма на словы Наталлі Арсенневай, Змітрака Бядулі, Андрэя Гуцава, Сяргея Дарожнага, Вітаўта Людэна, Ізраіля Плаўніка, Віктара Сямашкі, Юлія Таўбіна і аўтэнтычныя народныя тэксты.

## ВЫСТАВЫ

### Новае жыццё старадаўніх абразоў

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII —XIX стст.

### Млын

**Да 15 мая ў «Белэкспа»** — выстава-кірмаш народных рамёстваў «Млын». На выставе будуць прадстаўленыя ткацтва, кераміка, роспіс, вышыўка, разьба па дрэве, мазаіка і вітражы, кавальскія вырабы, мастацкія вырабы з меху і скуры…

### Японская парцаляна

**Да 31 мая ў Музеі гісторыі Мінска (вул.Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Японская парцаляна XVII — пачатку XX стст. у палацавым аздабленні». Выстава арганізаваная ў падтрымку горада-пабраціма Мінска — Сендая.

### Беларусы Ісака Сербава

**Да 14 мая ў Віленскай фатаграфічнай галерэі (вул.Сціклю, 4 (уваход з вул. Дзіджоі, 19)** працуе выстава «Беларусы: фотаэтнаграфічная калекцыя Ісака Сербава 1911 — 1912 гадоў». Фота былі зробленыя падчас паездак па Беларусі, пераважна ў раёнах Палесся. Адной з галоўных мэтаў экспедыцый была фотафіксацыя ўсяго таго, што ў пачатку XX ст. хутка змянялася і адыходзіла ў нябыт: адзенне, побыт, жыллё, звычаі беларусаў.

### Выстава выцінанкі

**Да 4 чэрвеня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава выцінанкі Надзеі Букі. Традыцыйнае мастацтва выцінанкі спалучаецца з сюррэалістычнымі вобразамі, непадуладнымі логіцы. Вожык на дне бутэлькі, панда з гузікам на пысе, мандарыны на снезе — частка свету мастачкі…

### Выстава твораў Зігмара Польке

**Да 14 мая ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** праходзіць выстава твораў нямецкага мастака Зігмара Польке «Музыка нявысветленага паходжання» .

### Дэталі

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а) да 19 мая** працуе персанальная выстава жывапісу і графікі Валерыя Песіна. Жанр карцін Валерыя Песіна вызначыць даволі складана — ці то нацюрморт, ці то пейзаж, — хоць штуршок для з'яўлення гэтых кампазіцый заўсёды даецца нейкімі рэальнымі аб'ектамі. Паводле формы яны блізкія да абстрактнага жывапісу. Таму мастак вызначае свае кампазіцыі словам «дэталі».

### У гонар Генрыка Сянкевіча

**У бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі (вул.Сурганава, 15, інфармацыйна-выставачны цэнтр, пакой 110)** працуе выстава «Летапісец гісторыі Польшчы (да 165-годдзя з дня нараджэння Г. Сянкевіча)», падрыхтаваная аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі сумесна з Польскім Інстытутам у Мінску. На выставе экспануюцца выданні 1887–2009 гг.: творы пісьменніка на польскай мове і ў перакладах на рускую і беларускую мовы, а таксама шматлікія публікацыі пра яго жыццё і творчасць.

### Перасоўныя выставы

**У «Мабільнай галерэі» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 20 мая** працуе 31-я мастацкая выстава Таварыства перасоўных мастацкіх выставак. XXI стагоддзе. (Санкт-Пецярбург). У Мінск выстава трапіла пасля доўгай вандроўкі па гарадах Еўропы. У экспазіцыі прадстаўлена каля 90 работ 36 жывапісцаў, графікаў і скульптараў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Самары і іншых гарадоў Расіі.

### Выстава афорту

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 28 мая** працуе выстава кіеўскай мастачкі Галіны Бадзяковай «Жыць — летуценіць». Бадзякова — прызнаны майстар афорту, які прыцягвае яе сваім элементам неспадзяванасці і магчымасцю эксперыментаваць. Менавіта таму яна так улюбёна ў тэхніку каляровага афорту, якая дае магчымасць у адным і тым жа сюжэце заўсёды знаходзіць новыя адценні настрою праз розныя нюансіроўкі колеру.

## ТЭАТРЫ

**12 мая**

**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

**Оперы і балета** — «Шахеразада. Іспанскія мініяцюры»

**13 мая**

**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

**14 мая**

**Лялек** — «Марозка»

**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**15 мая**

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»

**Оперы і балета** — «Церам-церамок»

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

**Оперы і балета** — «Кармэн»

**Купалаўскі** — «Translations»

**16 мая**

**Оперы і балета** — «Карсар»

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

**17 мая**

**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»

**18 мая**

**Оперы і балета** — «Дон-Кіхот»

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

**Юнага гледача** — «Крыху Пяшчоты»

**19 мая**

**Оперы і балета** — «Травіята»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**Оперы і балета** — «Жызэль»

**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

**20 мая**

**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»

**Юнага гледача** — «Пан-міністр»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**Купалаўскі** — «Вечар»

**21 мая**

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»

**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**22 мая**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»

**Лялек** — «Кот у ботах»

Купалаўскі — «Вячэра з прыдуркам»

**Купалаўскі** — «Паўлінка»

## КІНО

### Вады сланам!

Water for Elephants
ЗША, 2011, каляровы, 110 хв.
**Рэжысёр:** Фрэнсіс Лоўрэнс
**Жанр:** Драма
**Адзнака:** 6 (з 10)

У гады Вялікай Дэпрэсіі студэнт Якаб далучаецца да цырка братоў Бензіні, дзе працуе ветэрынарам. Ён закаханы ў зорку Марлену, чый муж Аўгуст жорстка кіруе цыркам, не грэбуючы забойствамі.

Карціна Фрэнсіса Лоўрэнса — цыркавая меладрама з атракцыёнамі на публіку, жарсцямі, талентам, ілюзіямі — і кічаваю пяшчотай. Надрыўная гісторыя расказаная як прадуманае і разумнае шоу, усе элементы якога ўраўнаважаны дзеля добрае касы. Шаноўная публіка! Вы прагнеце слёзаў і страху? Вы атрымаеце гэта ў цырку — крэмавым, прыгламураным, радасным. Там дзівосы, якіх вы ўсе чакалі. Там — вашы ілюзіі, якія цяпер і ў кіно.

**Андрэй Расінскі**





# «Сі-ва-коооооў!!!!»

**Беларус забіў цуд-гол з 51 метра.**

Гол Міхаіла Сівакова, забіты з адлегласці 51 метр, стаў сапраўдным упрыгажэннем чарговага тура чэмпіянату Польшчы. Трэнер кракаўскай «Віслы», за якую выступае беларус, Роберт Маaскант назваў Сівакова «вялікім» футбалістам.

Беларускі паўабаронца выйшаў на замену на 86-й хвіліне гасцявога матча свайго клуба з гданьскай «Лехіяй», у заяўцы на гульню якой не было беларускага форварда Аляксандра Сазанкова, а ўжо праз хвіліну, перахапіўшы мяч у цэнтры поля, пасылаў яго «за каўнер» брамніка каманды з Гданьска, усталяваўшы канчатковы лік 3:0.

«Толькі вялікія футбалісты могуць так забіць, і Сівакоў такім футбалістам будзе», — заявіў на пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер кракаўскай каманды.

**Алег Гардзіенка**

КІНО

## Новых фільмаў у мінскіх кінатэатрах стала ў тры разы меней

З разгарам фінансавага крызісу без новых фільмаў рызыкуе застацца мінская публіка: за апошнія два месяцы колькасць прэм'ераў у кінатэатрах скарацілася больш чым у тры разы. Ананімныя крыніцы кажуць пра недахоп валюты ў пракатчыкаў, апошнія тое адмаўляюць, спасылаючыся на «несезон» для прэм'ераў.

З'явіліся чуткі, што дзяржаўнае прадпрыемства «Кінавідэапракат», якое з'яўляецца манапалістам на сталічным рынку кінапракату і аб'ядноўвае 15 сталічных кінатэатраў, не ў стане аплачваць набыццё навінак з-за адсутнасці валюты. Таму замест звыклых

Падзенне колькасці прэм'ераў у мінскіх кінатэатрах




18–20 прэм'ер на месяц, на май 2011 года заяўлена ўсяго шэсць. Прагнозы былі несуцяшальнымі: калі сітуацыя з валютай не зменіцца, то ўлетку мінчукі могуць і зусім застацца без кінапрэм'ер.

Але прадстаўнікі пракатнай арганізацыі заявілі, што размовы пра недахоп валюты — толькі інтрыгі нядобразычліўцаў:

«Праблем з валютай у нас няма. Мінскія гледачы няхай не хвалююцца. Тыя, хто чакаюць горшага, не дачакаюцца», — пракаментаваў «Еўрапейскаму радыё» дырэктар «Кінавідэапракату» Васіль Коктыш рэкордна нізкую колькасць закупленых у гэтым месяцы прэм'ер.

Коктыш абяцае болей новых фільмаў улетку, бо, па яго словах, гэта самы лепшы сезон для прэм'ераў. Але чаму менавіта май-2011 аказаўся такім безнадзейным для дыстрыб'ютараў фільмаў, Васіль Коктыш не патлумачыў.

Нават у маі 2010 года, нягледзячы на «несезон» для пракату, у мінскіх кінатэатрах паказалі 11 новых фільмаў — амаль у два разы болей, чым сёлета.

У сакавіку гэтага года, калі валюта яшчэ ў банках была, мінчукі пабачылі цэлых 20 прэм'ераў, а ў красавіку, калі валюта пачала знікаць, — 15. У маі запланаваны паказ толькі 6 новых фільмаў. Дынаміка несуцяшальная: у наступным месяцы замест кінатэатраў, магчыма, прыйдзецца шукаць іншыя забаўкі. Напрыклад, стаянне ў чарзе ля абменніка.

**Generation.by**

ТАПАНІМІКА

## Вуліцы Дубоўкі, Баршчэўскага, Хруцкага — за Навінкамі

У Мінску з'явяцца вуліцы імя мастакоў Івана Хруцкага і Пятра Сергіевіча, музычнага дзеяча Генадзя Цітовіча, пісьменнікаў Яна Баршчэўскага, Івана Навуменкі і Уладзіміра Дубоўкі.

Такія рашэнні 29 красавіка прыняла камісія па назвах і перайменаванні вуліц, праспектаў, плошчаў і іншых састаўных частак горада Мінска. Аб гэтым паведаміў сябра камісіі кандыдат гістарычных навук Іван Сацукевіч.

Паводле яго слоў, гэтыя вуліцы будуць знаходзіцца ў новым мікраараёне, які плануецца назваць Хмарынскія Пасекі і плануецца збудаваць паміж былым пасёлкам Навінкі і былой вёскай Зацань.

Акрамя таго, вуліцу Чацвёртае транспартнае кальцо, якая знаходзіцца паміж праспектам Дзяржынскага і чыгункай Мінск — Брэст, вырашана назваць у гонар літоўскага мастака і кампазітара Мікалоюса Чурлёніса, цешча якога родам з-пад Мінска — з былой вёскі Пятроўшчына, што знаходзілася побач з гэтай вуліцай, сказаў навуковец.

**БелаПАН**

РАЗЛІКІ

## Беларускія інтэрнэт-крамы абавяжуць прымаць WebMoney

Міністэрства гандлю плануе абавязаць беларускія інтэрнэт-крамы падаваць пакупнікам права выбару спосабу аплаты, у тым ліку праз электронныя грошы.

Па словах намесніцы кіраўніка мінгандлю Ірыны Наркевіч, гэта забяспечыць празрыстасць інтэрнэт-гандлю.

Намесніца міністра ўдакладніла, што інтэрнэт-крамы варта абавязаць прымаць плацяжы з дапамогай сістэмы Адзінай разліковай інфармацыйнай прасторы (АРІП), мабільнага і інтэрнэт-банкінгу, электроннымі грашыма, з выкарыстаннем банкаўскіх плацёжных карт, праз касы банкаў, а таксама накладзеным плацяжом пры атрыманні тавараў на пошце.

«Інфармацыя аб такіх плацяжах будзе захоўвацца на працягу двух гадоў з дня продажу тавару, што дазволіць абаранiць правы спажыўца», — адзначыла Ірына Наркевіч.

**telegraf.by**






КОЛЫ

## Аўтасалоны «ў спячцы»

**Нявызначаная сітуацыя на валютным рынку падкасіла працу беларускіх аўтадылераў. Многія аўтасалоны прыпынілі продажы.**

З-за праблемаў з валютай застаюцца невырашанымі пытанні з імпартам. Такія аўтасалоны, як «Эмір Мотарс», якія рэалізуюць машыны маркі Toyota, на час зачынілі дзверы для пакупнікоў. Самым вялікім попытам, як нам растлумачылі, раней карысталіся маркі Toyota Corolla, Auris і Camry ў коштавым дыяпазоне 20000—50000 даляраў.

Аматарам аўтамабіля Audi пры звароце ў «Аўтасалон-AV» трэба пачакаць 6—7 месяцаў, перш чым яны змогуць пракаціцца на ўласнай машыне. Бо ў дадзеным салоне купіць аўто цяпер можна толькі пад заказ.

Тым не менш, ёсць яшчэ «апошнія з магіканаў», якія прапануюць выбар. У «Peugeot на Лагойскім» растлумачылі: «Асноўны клас папулярных аўтамабіляў — гэта аўто гарадскога тыпу, такія як «Пежо-207, 308». Мы не прыпынялі продажу, бо на складзе маецца вялікая колькасць машын, не такая, вядома, як была раней, але, тым не менш, аўтамабілі ёсць у наяўнасці. Ды і кліентаў цяпер хапае».

Таксама высветлілася, што падвышэнне коштаў на паліва ніякім чынам не паўплывала на выбар той ці іншай маркі аўтамабіля. Беларусы па гэтай прычыне не сталі прыхільнікамі больш эканамічных машын. Што да коштаў, то за апошні месяц яны засталіся ў старым дыяпазоне. Рэзкага скачка не назіралася.

**infobank.by**

ПРЫКОЛ

## У інтэрнэце з'явіўся блог Усяслава Чарадзея

Інтэрнаўты прыкалваюцца. У сеціве з'явіўся блог Усяслава Чарадзея, легендарнага полацкага князя, будаўніка Сафійскага сабора, які, паводле старажытных летапісаў, валодаў звышнатуральнымі здольнасцямі.

Чарадзей на сучаснай мове дзеліцца з чытачом тым, як гэта — быць у шкуры ваўка-пярэваратня і пры гэтым кіраваць сярэднявечным Полацкім княствам.

Жывому часопісу полацкі князь давярае ўласнае жыццё, скардзіцца на недасканаласць і адсталасць сучаснага яму сярэднявечнага грамадства, дзеліцца любоўнымі перажываннямі і нават раіцца з наведнікамі яго блогу, як паступіць у той ці іншай палітычнай сітуацыі.

ЖЧ Усяслава Чарадзея адкрыты ў межах праекта «БудзьмаTUT», ініцыяванага агульнанацыянальнай грамадзянскай кампаніяй «Будзьма беларусамі!» і парталам TUT.BY.

**СМ**

### Сапраўдная беларуская кухня

**Пляцкі варшаўскія**

Паўтара літра прасеянай найлепшай мукі, паўтары шклянкі малака, тры лыжкі ці 50 г добрых дражджэй змяшаць і добра ўзбіць; уліць потым паўшклянкі топленага масла, усыпаць шклянку цукру, трохі горкага міндалю і скуркі лімона, дадаць чатыры яйкі цэлыя, узбітыя ў гаршчэчку (які павінен стаяць у цёплай вадзе). Добра вымешаўшы, паставіць у цёплым месцы, а калі цеста паднімецца, зноў вымешваць, цэлыя чаго рабіць пляцкі на прамасленай паперы, а калі падыдуць, памазаць жаўтком, узбітым напалам з маслам, пасыпаць шчодра цукрам, змешаным з сечаным міндалём, і паставіць у гарачую печ.

**Падрыхтавала НБ**


## Новы нумар ARCHE:




Шукайце ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.


Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 слоў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

НАВУКА

## Знойдзены «ген шчасця»

Не так даўно навукоўцы адкрылі гены, якія адказваюць за схільнасць да алкагалізму, за доўгае жыццё, за аблысенне, за схільнасць да дыябету і нават да сужэнскай здрады. Цяпер жа, згодна з працай, апублікаванай у Journal of Human Genetics, знойдзены «ген шчасця».

Даследаванне ўтрымлівала інфармацыю аб генетычным вывучэнні 2574 падлеткаў, а таксама анкету рэспандэнтаў, дзе сярод іншых пытанняў было і такое: «Наколькі вы ў цэлым задаволеныя сваім жыццём?» Навукоўцы выявілі карэляцыю паміж адказамі падлеткаў на гэтае пытанне і варыяцыяй у іх гена 5-HTTLPR.

Уласна, навукоўцы і раней меркавалі, што варыятыўнасць гэтага гена ўплывае на функцыянаванне ў мозгу «гармону радасці» сератаніну.

Калі чалавек мае «доўгую» варыяцыю гэтага гена, то ён больш падлеглы ўплыву сератаніну і, як вынік, больш шчаслівы. Калі ж у чалавека больш «кароткія» варыяцыі гена 5-HTTLPR, то ён больш схільны да песімізму.

Але, падагульняючы, навукоўцы падкрэслілі, што на адчуванне чалавекам шчасця робіць уплыў вялікая колькасць фактараў.

**КаМ**



**Параду Перамогі на мінскім праспекце Незалежнасці папярэднічалі беспрэцэдэнтныя меры бяспекі. На ўваходах у зону святкавання стаялі металадэтэктары, падыходы ахоўвала міліцыя і спецслужбы.**



PHOTO BYMEDIA.NET

**6 мая ў вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна на Гомельшчыне, згодна са старажытным абрадам, адсвяткавалі Юр'я. Святы Юры, дарэчы, — правобраз вершніка «Пагоні».**




**На матчы ўкраінскага чэмпіяната «Карпаты» (Львоў) — «Дынама» (Кіеў) на трыбунным сектары фанатаў «Карпат» з'явіўся вялікі бел-чырвона-белы сцяг з надпісам «Конанаў Алег Георгіевіч — ганаровы грамадзянін Львова». Беларуса Алега Конанава шануюць у Львове: ён стаў трэнерам футбольнага клуба «Карпаты» ў 2008-м і за тры гады вывеў каманду ў групавы этап Лігі Еўропы.**

**Школьны настаўнік з Вашынгтона Гары Уэдл пасля тэрарыстычнай атакі 11 верасня 2001 года даў зарок не галіцца, пакуль не зловяць Асаму бен Ладэна. За дзесяць гадоў барада вырасла аж на сорак сантыметраў. Настаўнік нарэшце атрымаў магчымасць зголіць яе.**



DRUGOI.LIVEJOURNAL.COM



## Анекдоты

* * *

Хай толькі Расія паспрабуе ўвесці свой рубель! Беларусы адразу скупяць увесь іх залатавалютны рэзерв.

* * *

Лукашэнка даручыў ураду знайсці ў Беларусі нафту. Яе знайшлі праз пятнаццаць хвілін у суседнім нафтаправодзе.

* * *

Усе хваробы лечацца гарэлкай: ад адных хвароб трэба яе піць, ад іншых — не піць, а ад некаторых — расціраць.

* * *

Той, хто наракае на чамадан без ручкі, ніколі не цягаў піяніна на рамянях.

* * *

— Чаму мастакі заўсёды ставяць свой подпіс на карціне ўнізе справа?

— Для таго, каб знатакі жывапісу гэта заўважылі і не вешалі карціну ўверх нагамі.

* * *

— Вочы счырванелыя, апухлыя, баляць...

— Вясновы кан'юктывіт?

— Безлімітны інтэрнэт!

* * *

Жанчына звяртаецца да працаўніцы абменніка:

— У вас тут нехта талерку з бутэрбродамі забыўся.

Да акенца падскоквае мужчына:

— Ніхто нічога не забыў, гэта я тут жыву.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Ігумен.** Даўно ўжо людзі пагаворвалі, што ў нашым гарадку не ўсё ладна, аж вось выявілася, у чым прычына. Сіфіліс так пашырыўся між жыхароў, што мястэчковы доктар павінен быў звярнуцца да лекарскага аддзела з паведамленнем, што хвароба прымае грозную меру.

**«НН». № 18—19. 1911.**

**Судовая перамога «НН».** Вышэйшы гаспадарчы суд адмяніў папярэджанне, вынесенае «Нашай Ніве» пракуратурай. Пад рубрыкай «Дзе варта быць» у №1 газета надрукавала інфармацыю пра калядныя набажэнствы ў сталіцы. Пракуратура знайшла парушэнне ў згадцы пра службу Крыжаўзвіжанскага прыхода аўтакефальнікаў у Курапатах. У згадках пра Аўтакефалію пракуратура ўбачыла распаўсюджванне інфармацыі ад імя незарэгістраванай грамадскай арганізацыі і публікацыю заведама недакладных звестак. Суддзя Тамара Кітаева выслухала бакі і вынесла рашэнне: папярэджанне скасаваць, а з пракуратуры спагнаць 200 тыс. рублёў за судовыя выдаткі.

**«НН». № 18.2001**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**

З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

© **НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7300.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**

Нумар падпісаны ў друк 23.00 10.05.2011.

Замова №. 2211

Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12